Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 36 (4785) 12 верасня 2014 г.

## Пункцірам

✔ Міністэрства культуры Беларусі і Міністэрства культуры і мастацтваў Шры Ланкі падпісалі міжведамасны дагавор аб супрацоўніцтве. Урачыстая цырымонія прайшла 8 верасня ў Вялікім тэатры Беларусі. Прадугледжаны абмен досведам майстроў народных промыслаў, арганізацыя гастроляў і творчых сустрэч тэатральных дзеячаў. Першым праектам стане правядзенне Дзён ланкійскага кіно ў Беларусі.

✔ Прыём дакументаў на саісканне прэмій Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва за 2015 — 2016 гады пачнецца 1 кастрычніка 2014 года і прадоўжыцца да 30 студзеня 2015-га. Прадстаўляцца могуць творы, абнародаваныя да 1 сакавіка бягучага года. З беларускага боку прыёмам дакументаў будзе займацца Міністэрства культуры, з расійскага — дэпартамент міжнароднага супрацоўніцтва Міністэрства культуры Расіі.

✔ У межах святкавання 200-годдзя выбітнага дыпламата і вучонага Іосіфа Гашкевіча ў Парыжы, у штабкватэры ЮНЕСКА, урачыста адкрылася выстаўка, прысвечаная знакамітаму беларусу. Юбілейная дата нараджэння І. Гашкевіча ўнесена ЮНЕСКА ў Сусветны каляндар памятных дат на 2014 — 2015 гады.

✔ II Фестываль мастацтваў беларусаў свету пачынаецца сёння ў Мінску. У форуме, які ладзіцца ў межах Дня горада, бяруць удзел амаль 250 суайчыннікаў з 18 краін. З іх творчымі дасягненнямі могуць пазнаёміцца жыхары сталіцы, невялікіх гарадоў і аграгарадкоў Мінскай вобласці. Падчас фэсту пройдзе пасяджэнне Кансультатыўнага савета па справах беларусаў замежжа пры Міністэрстве культуры.

✔ Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа сумесна з Дзяржаўным мемарыяльным гісторыка-літаратурным і прыроднаіландшафтным музеем-запаведнікам А. С. Пушкіна «Міхайлаўскае» на гэтым тыдні наладзілі акцыю «Пушкін у гасцях у Коласа». Праграма супрацоўніцтва паміж музеем Якуба Коласа і Пушкінскім запаведнікам па правядзенні сумесных выставачных і культурна-адукацыйных праектаў разлічана да 2016 года.

✔ Помнік народнаму артысту СССР Уладзіміру Мулявіну ўстановяць на яго радзіме ў Екацярынбургу напрыканцы верасня. Манумент узвядуць па праекце беларускага скульптара, уладальніка залатога медаля Акадэміі мастацтваў СССР Сяргея Логвіна. Помнік размесцяць у цэнтры горада — на алеі, якая вядзе да білетных кас кінаканцэртнага тэатра «Космас».

✔ Урачыстае адкрыццё Міжнароднага фестывалю Юрыя Башмета адбудзецца 29 верасня ў Вялікай канцэртнай зале філармоніі. У межах праекта «Музыка і жывапіс» публіку чакае незвычайнае шоу: выкананне Літоўскім камерным аркестрам сімфоніі Моцарта будзе суправаджацца дэманстрацыяй карцін выбітных мастакоў — сучаснікаў кампазітара.

✔ Чатырнаццацігадовая мінчанка Надзея Місякова з песняй «Сокал» прадставіць Беларусь на міжнародным дзіцячым конкурсе песні «Еўрабачанне-2014», які пройдзе 15 лістапада на Мальце. Надзея займаецца вакалам у ансамблі «Заранак» Нацыянальнага цэнтра музычнага мастацтва імя Уладзіміра Мулявіна.



# Слова і слава Заслаўя



Фота Кастуся Дробава

*Намеснік Прэм'ер-міністра Беларусі Анатоль Тозік уручае Дыплом першай ступені празаіку Алесю Савіцкаму.*

**Сталіца XXI свята беларускага пісьменства ва ўрачыстыя дні ззяла ўсімі фарбамі — музычнымі, жывапіснымі ды, вядома, літаратурнымі. Горад нагадваў агромністае шматколернае палатно: сюды з'ехаліся не толькі госці з усіх куткоў Беларусі, але і прадстаўнікі іншых краін.**

Дзень беларускага пісьменства-2014 стаўся сапраўдным феерверкам пазітыўных эмоцый і ўражанняў. Святочная праграма — і для дзяцей, і для дарослых. Падчас навукова-практычнай канферэнцыі «Заслаўскія чытанні» навукоўцы і літаратары выступілі з дакладамі па гісторыі горада. Прайшло кірмашовае шэсце ў стылізаваных беларускіх касцюмах «Пернікавы фэст», адбылося ўрачыстае адкрыццё Дзіцячага парку культуры і адпачынку ды помніка заснавальніку горада князю Ізяславу. Працавалі павільён «Кнігі і прэса Беларусі», «Літаратурнае кафэ», шматлікія выстаўкі, канцэртныя пляцоўкі, ладзіліся прэзентацыі айчынных кніг, перыядычных выданняў, а таксама майстар-класы, конкурсы і, канечне ж, сустрэчы з пісьменнікамі, выдаўцамі, прадстаўнікамі прэсы ды распаўсюджвальнікамі кніг.

Былі падведзены вынікі конкурсу юных чытальнікаў Мінскай вобласці «Жывая класіка» і рэспубліканскай акцыі «Лета з добрай кнігай». Уганараваны пераможцы конкурсу «Лепшы твор года-2013». Медалі «За вялікі ўклад у літаратуру» атрымалі пісьменнікі Чынгіз Аліаглу (Азербайджан), Джаваншыр Джафараў (Азербайджан), Юрый Казлоў (Расія), Хасан Тхазёплаў (Расія, Кабардзіна-Балкарыя), Святлана Ананьева (Казахстан), Мухсін Ісабоеў (Таджыкістан), Райхан Мажэнкызы (Казахстан), Юрый Іваноў (Малдова), Георгій Прахін (Расія), Маджэн Інкар (Казахстан), Назры Асадзода (Таджыкістан). Ля храма Праабражэння Гасподняга ўдзельнікі рэспубліканскай навукова-творчай экспедыцыі «Дарога да Святыняў» пасадзілі Сад Малітвы, а ў самім будынку прайшла Божая літургія.

Не засталася без увагі гісторыя кнігавыдання. Удзельнікаў свята асабліва зацікавілі дзеючы друкаваны станок XVI і афортны станок пачатку XX стагоддзя, якія дэманстраваліся на Цэнтральнай плошчы. Кожны меў магчымасць не толькі спасцігнуць тонкасці старадаўняга працэсу вытворчасці паперы, але і адчуць сябе кнігадрукаром. Біблію Францыска Скарыны, надрукаваную па старажытных тэхналогіях, прэзентаваў айчынны гісторык, калекцыянер і краязнаўца, ініцыятар яе аднаўлення ў Скарынавых традыцыях Уладзімір Ліхадзедаў.

На сцэнічнай пляцоўцы Цэнтральнай плошчы прайшоў шэраг прэзентацый агульнанацыянальных праектаў па вяртанні ды папулярызацыі кніжнай спадчыны, прадстаўленых Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі. Гэта факсімільнае перавыданне пяці першых тамоў поўнага збору Францыска Скарыны (праект, прымеркаваны да 500-годдзя айчыннага кнігадрукавання, разлічаны на 2013 — 2017 гады; яго ініцыятары — НББ і Банк БелВЭБ) і Тураўскага Евангелля — найстаражытнейшага кніжнага помніка Беларусі (сумесны праект НББ і кампаніі Xerox). Тут былі прадстаўлены і фотаальбом «Кніжная спадчына Беларусі», падрыхтаваны сумесна з Беларускай Энцыклапедыяй імя Петруся Броўкі. На яго старонках — выявы найбуйнейшых кніжных помнікаў з фондаў НББ.

Заканчэнне чытайце на стар. 2 ▶



Фота Кастуся Дробава

Госці з-за мяжы. Расійскі пісьменнік Георгій Прахін выказвае шчырую падзяку арганізатарам за якасную падрыхтоўку свята.

# Слова і слава Заслаўя

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1**

Не забыта і гісторыя горада: на той жа пляцоўцы ладзіліся тэатралізаваная экспазіцыя «Заслаўскі дворык» з удзелам ансамбляў старадаўняй музыкі і тэатральных калектываў, майстар-класы па сярэднявечных танцах.

Дзень беларускага пісьменства ўрачыста адкрыўся суботнім вечарам, напярэдадні вялікага святочнага канцэрта. Гасцей і ўдзельнікаў віталі першы намеснік Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандр Радзькоў, намеснік Прэм'ер-міністра Беларусі Анатоль Тозік, епіскап Барысаўскі, вікарый Мінскай епархіі Веньямін, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец.

Аляксандр Радзькоў зачытаў віншаванне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі ўдзельнікам і гасцям свята. «Сёння беларуская дзяржава актыўна падтрымлівае нацыянальную інфармацыйную прастору, айчыннае кнігавыданне ў мэтах кансалідацыі грамадства, сцвярджэння высокіх маральных каштоўнасцей і ідэалаў», — адзначана ў віншаванні.

Падчас цырымоніі закрыцця святочная эстафета была перададзена будучай сталіцы Дня беларускага пісьменства-2015 — гораду Шчучыну Гродзенскай вобласці.

**Яна ЯВІЧ, Заслаўе — Мінск**

# Формула лёсу



Ганаровы консул Рэспублікі Беларусь у Цюменскай вобласці Уладзімір Шугля родам з Беларусі. Грамадскі дзеяч, бізнесмен, паэт, член некалькіх саюзаў пісьменнікаў, аўтар шэрагу паэтычных зборнікаў. За адзін з іх, «Чацвёртае вымярэнне», падчас свята беларускага пісьменства, якое днямі прайшло ў Заслаўі, творца быў узнагароджаны дыпломам ІІ ступені конкурсу «Лепшы твор года-2013». Як Уладзіміру Фёдаравічу ўдаецца сумяшчаць літаратурную і грамадскую дзейнасць, пацікавілася карэспандэнт «ЛіМа».

— У маёй працы, як і ў кожнага, два складнікі — дзелавы і духоўны. Важна тое, як кожны ўдасканальвае развіццё ўласных дзелавых і духоўных якасцей. А дзелавая сфера нашага жыцця — гэта не толькі работа, але і дом, сям'я, гаспадарка...

**— Дарэчы, сям'я неяк паўплывала на ваш жыццёвы выбар?**

— Лёс чалавека вызначаюць тры фактары: спадчыннасць, выхаванне і абставіны. Бацька быў ваенным. Дарэчы, ён, як і маці, родам з Беларусі — з Карэліч, а мама — з Барысава. Яны выхавалі шасцярых дзяцей, я быў пятым. Бацькі прывілі мне разуменне таго, што базіс духоўнасці — гэта душа.

**— З чаго вы пачыналі як літаратар?**

— Падобна многім маладым людзям, з уласных вершаў. Але думаў і пра тое, як зрабіць кар'еру. Завочна скончыў Свярдлоўскі інстытут народнай гаспадаркі. Прайшоў шлях ад слесара да буйнога кіраўніка, не забываючы, аднак, пра паэзію. А распад Савецкага Саюза падштурхнуў да ўсведамлення таго, што мне бракуе духоўнасці. Пачаў плённа пісаць, пакуль мой творчы голас не дасягнуў прафесійнага ўзроўню. У выніку стаў членам Санкт-Пецярбургскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Расіі, пасля — Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы і СПБ.

**— Памятаеце, якой была ваша першая публікацыя?**

— Упершыню мае вершы з'явіліся ў газеце Уральскай ваеннай акругі «Красный боец», калі служыў у арміі.

**— А як працавалася над зборнікам «Пераможцы»?**

— Мною ініцыяваны выхад гэтай кнігі, прымеркаваны да 70-годдзя Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне. Да падрыхтоўкі выдання актыўна спрычыніліся старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў і старшыня Цюменскай абласной арганізацыі Саюза пісьменнікаў Расіі Мікалай Дзянісаў. У кнізе — творы беларускіх і цюменскіх празаікаў і паэтаў пра вайну, лёсы простых людзей. Шматлікія водгукі кажуць пра тое, што зборнік, у які ўвайшлі і мае вершы, сапраўды запатрабаваны.

**— Над чым працуеце цяпер?**

— Вершы не ўзнікаюць на пустым месцы. Яны заўсёды пішуцца праз моцныя перажыванні, праз боль. Так, на сайце *shuglya.ru* апублікаваны мой новы паэтычны цыкл «Через прицел души».

**Гутарыла Яна ЯВІЧ**

# Сяброўства новыя старонкі

**Ужо восьмы раз падчас святкавання Дня беларускага пісьменства прайшоў міжнародны круглы стол, прысвечаны абмеркаванню актуальных пытанняў супрацоўніцтва ў галіне літаратуры. Сёлета беларускія аўтары, выдаўцы, перакладчыкі ды іх калегі з Расіі, Малдовы, Таджыкістана, Казахстана, Літвы і іншых краін сабраліся ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Асноўную тэму пасяджэння вызначылі наступным чынам: «Сугучча: літаратура як люстэрка эпохі».**

Адметна, што праца гэтага «круглага стала» праходзіць не толькі раз на год, падчас Свята беларускага пісьменства, — гэта фактычна бесперапынны працэс, супрацоўніцтва, вынікам якога можна назваць цэлы шэраг праектаў па выданні твораў літаратуры краін СНД на беларускай мове і наадварот — прадстаўленне беларускіх творцаў за мяжой. Надзвычай важным стала прывітальнае слова ўдзельнікам «круглага стала» Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Андрэя Кабякова. У ім, у прыватнасці, гаварылася: «Форум праходзіць у межах нацыянальнага свята — Дня беларускага пісьменства, якое займае асаблівае месца ў духоўным і культурным жыцці Беларусі. Наша дзяржава звяртае вялікую ўвагу і аказвае падтрымку развіццю айчыннай літаратуры, а таксама міжкультурнаму дыялогу і гуманітарнаму ўзаемадзеянню народаў розных краін. Слова пісьменніка, таленавітыя творы класікаў і сучасных аўтараў заклікаlы аб'ядноўваць людзей на аснове маральных ідэалаў. І вельмі важна, што «круглы стол» робіць свой важкі ўнёсак ва ўзаемаўзбагачэнне нацыянальных літаратур».

Удзельнікам актыўнага абмеркавання пытанняў за «круглым сталом» стаў першы намеснік Кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Аляксандр Радзькоў. Ён заўважыў:

— Без мудрасці пісьменнікаў нельга ўявіць паўнату ўспрымання жыцця. На любым гістарычным этапе развіцця грамадства патрэбна асэнсоўваць тое, што было, што мы перажываем сёння. Але найбольш складана казаць пра будучыню. Раней я думаў, што складаней за вышэйшую матэматыку не існуе нічога, але толькі цяпер зразумеў, што намнога складаней асэнсоўваць жыццё. Для гэтага трэба апускацца на глыбіню. Арганізоўваючы па даручэнні Прэзідэнта паездкі нашых пісьменнікаў па краіне, мы адчувалі, як людзі чакаюць кантакту з вамі. Бо нават самаму разумнаму чалавеку трэба параўнаць свае думкі, адчуванні з думкамі і адчуваннямі іншых. У якасці такога камертона выступае думка пісьменніка, які па вызначэнні разумны: ён філасоф і жрэц. У яго творы — не толькі інтэлектуальныя складнікі, але і эмацыянальная афарбоўка, што пераконвае чытача, дазваляе паверыць аўтарскаму слову.

Думку Аляксандра Міхайлавіча падтрымала Міністр інфармацыі краіны Лілія Ананіч:

— Мы бачым, што абмен духоўна-маральным патэнцыялам розных культур і літаратур умацоўвае духоўна-маральную прастору Беларусі, нашу нацыянальную культуру. У 2017 годзе краіна будзе адзначаць 500-годдзе кнігадрукавання, і сёння тут шмат робіцца для падтрымкі нацыянальнага кнігавыдання. Я без перабольшання падкрэслю не толькі дзяржаўную падтрымку, але і прэзідэнцкі патранат справы. Год кнігі даў новы імпульс да творчых праектаў, некаторыя з іх жывуць і сёння. А гэтым летам мы паспяхова правялі акцыю «Лета з добрай кнігай». У яе межах пры дзяржаўнай падтрымцы выйшла цэлая серыя выданняў, прысвечаных 70-годдзю з дня вызвалення Беларусі. Камплекты кніг былі перададзеныя ў бібліятэкі, каб дзеці маглі яшчэ раз дакрануцца да святой памяці, радкоў, напісаных пра вайну не толькі класікамі, але і сучаснымі аўтарамі. Сёлета Беларусь працягвае старшынства ў СНД, летась мы ўнеслі свой кнігавыдавецкі ўклад у тое, каб на прасторах Садружнасці з'явілася літаратура апошняга дваццацігоддзя — серыя «Сугучча сэрцаў». Каб працягваць і развіваць традыцыю, народжаны новы праект — альманах «Сугучча».

Падчас абмеркавання за «круглым сталом» узнімаліся і досыць вострыя пытанні запатрабаванасці пісьменніка ў грамадстве, маральнай адказнасці творцы і выбару ўласнага жыццёвага і творчага крэда.

— Сёння грамадства перажывае складаны час. Новыя адкрыцці прынеслі не толькі навукова-тэхнічны прагрэс, але і не вядомыя раней хваробы, тэхнагенныя катастрофы. Таму роля літаратуры надзвычай высокая, гэта не толькі крыніца ведаў, але і інструмент, што дапамагае змагацца са злом, — такое меркаванне выказаў старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец. — Жыццё патрабуе ад нашых калег дабівацца змены расстаноўкі сіл, калі важнай стане не зброя, але слова. Сёння кнігі сталі менш запатрабаванымі, людзі менш чытаюць, але гэты складаны перыяд паступова праходзіць, кніга зноў набывае папулярнасць. Пра гэта сведчаць продажы кнігарняў, запатрабаванасць пісьменнікаў і павелічэнне сустрэч з аўтарамі, прэзентацый новых кніг.

**Заканчэнне чытайце на стар. 9 ▶**

# Вечнае вуснамі юных

Падчас святкавання Дня беларускага пісьменства ў заслаўскім Доме культуры «Світанак» былі падведзены вынікі рэспубліканскай акцыі «Лета з добрай кнігай!» і конкурсу юных чытальнікаў Мінскай вобласці «Жывая класіка».

— Любіце кнігу і чытайце кнігу, бо толькі сур'ёзнае чытанне дапамажа вам зрабіць правільныя крокі па жыцці, стаць сапраўднымі людзьмі, сапраўднымі грамадзянамі Рэспублікі Беларусь, — прывітала ўдзельнікаў урачыстасці Міністр інфармацыі краіны Лілія Ананіч.

Да правядзення акцыі ды конкурсу актыўна спрычыніўся і Выдавецкі дом «Звязда» на чале з дырэктарам — галоўным рэдактарам Алесем Карлюкевічам. Павіншавалі фіналістаў і замежныя госці — пісьменнікі Чынгіз Аліаглу (Азербайджан) і Хасан Тхазеплаў (Расія).

Дыпломамі Міністэрства інфармацыі за актыўную прапаганду беларускай кнігі ды развіццё інтэлектуальнага патэнцыялу моладзі адзначаны намеснік старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Уладзіслаў Цыдзік, пісьменніца Кацярына Хадасевіч-Лісавая, загадчыкі аддзелаў Выдавецкага дома «Звязда» Ала Завацкая і Вольга Аляксеева, старшыня Слуцкага раённага савета Беларускай рэспубліканскай піянерскай арганізацыі Святлана Міранновіч.

Ганаровыя ўзнагароды атрымалі загадчык сектара выхаваўчай і ідэалагічнай работы ўпраўлення адукацыі, спорту і турызму адміністрацыі Цэнтральнага раёна Мінска Віта Смарцава, дырэктар аздараўленчага лагера «Спадарожнік» ААТ «Мінскрамбуд» Ніна Кусмерская-Мялік, дырэктар аздараўленчага лагера імя Гагарына дзяржаўнага прадпрыемства «Мінсктранс» Наталля Макейчык і дырэктар Мінскага гарадскога адукацыйна-аздараўленчага цэнтра «Лідар» Васіль Стадольнік, а таксама актыўныя ўдзельнікі акцыі «Лета з добрай кнігай!» Іван Бамболін (сярэдняя школа № 64 г. Мінска) і Настасся Радкевіч (сярэдняя школа № 76 г. Мінска).

У конкурсе «Жывая класіка» ўзялі ўдзел навучэнцы школ і гімназій з розных куткоў Міншчыны. У Заслаўе на свята прыехалі яго фіналісты, у прыватнасці, Данііл Мамцаў (сярэдняя школа № 7 г. Барысава), Сафія Гуль (клецкая сярэдняя школы № 3), Тацяна Ізбавіцель (Косінская сярэдняя школа Лагойскага раёна), Наталія Казыра (гімназіі № 1 г. Жодзіна), Уладзімір Косцін (Плiская сярэдняя школа імя У. А. Мікуліча Смалявіцкага раёна). Разам з іншымі таленавітымі хлопчыкамі і дзяўчынкамі яны атрымалі дыпломы і падарункі ад Міністэрства інфармацыі ды Выдавецкага дома «Звязда».

**Дана ХОДНІЧ**

# Падарожжы Аксаны Аракчэевай


Фота Наталлі Асмола

**Мінская кнігарня «Кніжны салон», вядомая шматлікімі прэзентацыямі кніжных навінак беларускіх выдавецтваў, усё больш рашуча набывае статус карціннай галерэі.**

І невялікая плошча залы крамы, дзе па-ранейшаму можна набыць свежыя кніжныя навінкі, гэтаму ніколькі не перашкаджае. Наадварот — стварае атмасферу прыязных стасункаў гледачоў і чытачоў з мастаком і яго працамі. Прынамсі, у выпадку з Аксанай Аракчэевай, якая прадставіла тут сваю выстаўку «Вецер падарожжаў 2».

Невялікія па памерах пастэльныя замалёўкі, пейзажы пазнаёмілі наведвальнікаў з цікавымі для мастачкі адрасамі ў Расіі, Польшы, Славакіі, Чэхіі, Германіі, Швейцарыі, Іспаніі, Літве. Адкрываючы выстаўку, Аксана Аракчэева распавяла пра свае памкненні адшукваць новыя, невядомыя раней мясціны. Любоў да падарожжаў, прага непаўторных уражанняў — аснова яе творчых вандровак. Углядаючыся ў работы, адчуваеш сонечны характар сюжэтаў. Старадаўнія сядзібы, адметныя ландшафты, самыя нечаканыя «вокны ў свет» — гэта прыцягвае, прымушае ледзьве не следам за мастачкай выправіцца ў вандроўку па не такіх ужо і далёкіх краінах.

Вітаючы Аксану ў дзень адкрыцця экспазіцыі, шмат добрых слоў пра светапогляд мастачкі выказала гаспадыня «Кніжнага салона» Ала Зміёва. Уражаннямі пра творчасць калегі падзяліліся жывапісец Павел Масленікаў — унук славутага Паўла Масленікава, мультыплікатар Ігар Волчак. Дарэчы, у мультыплікацыі спрабавала творчыя сілы і Аксана Аракчэева.

Што да кагорты мастакоў Масленікавых, то зусім нядаўна менавіта А. Аракчэева выступіла арганізатарам выстаўкі «Масленікавы. Вобразы роднай зямлі» ў выставачнай зале «GalerieKaras» старадаўняга замка мараўскага горада Тржэбіч (Чэхія). Беларуская мастачка плануе развіваць праекты такога кшталту. Не выключана, што ў найбліжэйшы час запросіць да прадстаўлення ў згаданай галерэі сяброў і калег з Мінска. Рэалізацыі такіх задум спрыяе чэшская амбасада ў Беларусі. Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Чэхіі ў Беларусі Мілан Экерт браў удзел у адкрыцці выстаўкі Аксаны Аракчэевай.

На мастацкай імпрэзе былі прадстаўлены і кнігі, афармленыя мастачкай. Пра гэты кірунак у яе творчасці гаварылі дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч, галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва» Таццяна Сівец, пісьменніца Алена Масла. У апошнія некалькі гадоў Аксана Аракчэева аформіла серыю кніг з аўтарскімі казкамі для выдавецтваў «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» і Выдавецкага дома «Звязда». Шмат што ўжо пабачыла свет, многія кнігі рыхтуюцца да друку.

Творцы, бібліятэкары, юныя чытачы адзначаюць багацце сюжэтаў, незвычайныя здольнасці мастачкі як кніжнага ілюстратара. Часам здаецца, што яна выступае суаўтарам і істотна дапаўняе творчымі рашэннямі пісьменніцкую фантазію. Вельмі цёпла пра сяброўства з Аксанай Аракчэевай і супольныя задумкі расказала падчас імпрэзы Алена Масла. Такая садружнасць пісьменніка і мастака не можа не захапляць.

— Мы наўмысна распрацоўваем цэлую серыю сустрэч у «Кніжным салоне» з кніжнымі графікамі, — адзначыла Ала Зміёва. — І будзем удзячны іншым выдавецтвам за падобныя ініцыятывы. Кнігу цяжка ўявіць без выразнага мастацкага суправаджэння. Тым болей — дзіцячую… Таму і запрашаем у госці выдаўцоў разам з кніжнымі графікамі.

**Мікола БЕРЛЕЖ**

# Усе на конкурс!

Пастаянны камітэт Саюзнай дзяржавы абвясціў пра пачатак конкурсу маладых літаратараў Саюзнай дзяржавы «Мост дружбы». Гэтае творчае спаборніцтва сарыентавана на падтрымку таленавітых аўтараў, прыцягненне іх увагі да гісторыі, культуры і літаратурных традыцый Расіі і Беларусі.

Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца беларускія і расійскія літаратары ва ўзросце 18 — 30 гадоў. Прымаюцца творы малой літаратурнай формы (апавед, нарыс, эсэ), якія не публікаваліся раней і не ўдзельнічалі ў іншых спаборніцтвах.

Заснавальнік конкурсу — Пастаянны камітэт Саюзнай дзяржавы. Арганізацыйную падтрымку аказваюць Асацыяцыя «Спазнаем Еўразію», Інстытут сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага (Расійская Федэрацыя), Нацыянальны прэс-цэнтр Рэспублікі Беларусь.

Інфармацыйны партнёр з беларускага боку — газета «Літаратура і мастацтва» — будзе асвятляць асноўныя этапы творчага спаборніцтва, знаёміць з яго ўдзельнікамі і прадстаўляць на сваіх старонках працы пераможцаў.

Галоўныя мэты конкурсу — прадастаўленне маладым аўтарам Беларусі і Расіі магчымасці першай публікацыі і прасоўванне іх твораў да чытача, адкрыццё новых імён у літаратуры. Кожны ўдзельнік можа накіраваць толькі адзін празаічны твор, напісаны на рускай або беларускай мове.

Работы і заяўкі, у якіх павінны быць змешчаны асабістыя дадзеныя, месца жыхарства, а таксама вучобы ці працы, тэлефон, электронны адрас, кароткая біяграфічная даведка, фотаздымак, будуць прымацца да 15 лістапада 2014 года толькі на электронны адрас *info@bpc.by* з пазнакай «Мост дружбы».

Пераможцам уручаюцца дыпломы, а іх працы публікуюцца ў літаратурным альманаху, які будзе распаўсюджаны ў Беларусі і Расіі.

Больш поўную інфармацыю пра ўмовы конкурсу можна знайсці на сайце *www.soyuz.by* у раздзеле «Конкурсы».

**Раіса МАРЧУК**

# Пачынальніку роднага слова


Фота Кастуся Дробава

Адкрыццё помніка князю Ізяславу на Цэнтральнай плошчы Заслаўя нездарма адбылося падчас святкавання Дня беларускага пісьменства: менавіта ён у X стагоддзі першым увёў у Полацкім княстве навучанне пісьму.

Нацыянальная культура павінна выступаць духоўнай асновай міжнароднага адзінства, служыць крыніцай высокіх патрыятычных пачуццяў і гонару за Радзіму, упэўнены міністр культуры Рэспублікі Беларусь Барыс Святлоў. Падчас урачыстай цырымоніі Барыс Уладзіміравіч выказаў падзяку аўтару манумента, скульптару Аляксандру Прохараву, і ўсім тым, хто спрычыніўся да ўвасаблення гэтай ідэі. «Жадаю, каб самаадданая асветніцкая дзейнасць Ізяслава стала яскравым прыкладам для кожнага з нас», — падкрэсліў міністр.

Бронзавая выява заснавальніка горада дасягае пяці метраў у вышыню. Князь Ізяслаў, падперазаны нармандскім поясам, узброены мячом, стаіць на гранітным пастаменце. У яго руках — кніга.

**Арына КРАЙКО**

*Тэле-ЛіМ*

# Зазірніце ў краіну дзяцінства...

Днямі ў сталічным Музеі гісторыі беларускага кіно быў прэзентаваны праект «Старыя казкі» — такую прэм'еру рыхтуе да выхаду ў новым сезоне тэлеканал «Беларусь 3». Праект прысвечаны знакамітым дзіцячым стужкам, у розныя гады знятым на кінастудыі «Беларусьфільм». Паказ гэтага цыкла прымеркаваны да 90-годдзя айчыннага кінематографа.

Да выхаду ў эфір рыхтуецца 16 «серый». Пасля кожнай гледачы пабачаць фільм, гісторыі стварэння якога была прысвечана праграма, — класіку дзіцячага кіно, любімую дарослымі і дзецьмі. З праграм цыкла можна будзе даведацца пра адметнасці стварэння кінастужак і далейшы лёс юных артыстаў. Успамінамі пра жыццё на здымачнай пляцоўцы падзеляцца акцёры, сцэнарысты, рэжысёры.

Галоўны дырэктар галоўнай дырэкцыі тэлеканала «Беларусь 3» Віктар Маючы прадставіў спецыялістаў у галіне кіно: журналіста, сцэнарыста, галоўнага рэдактара часопіса «На экранах» Людмілу Перагудаву, літаратурнага рэдактара гэтага ж выдання Юлію Ляшко, кіназнаўцу, загадчыка кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі БДУ Людмілу Саянкову, заслужаную артыстку Беларусі, старшыню гільдыі беларускіх акцёраў Святлану Сухавей, загадчыка аддзела экранных мастацтваў Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі Антаніну Карпілаву і старшага навуковага супрацоўніка гэтага ж аддзела Наталлю Агафонаву. Віктар Маючы падкрэсліў: праект «Старыя казкі» — не адзіная прэм'ера тэлеканала ў новым сезоне. Публіку чакаюць праграмы «Навукаманія», «Музеі» ды іншыя прыемныя неспадзяванкі.

Паводле Віталя Катавіцкага, акцёра і рэжысёра, загадчыка кафедры рэжысуры тэатральнага факультэта Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, фільмы, якім прысвечаны праект, вельмі прафесійныя з пункту гледжання стылю, рэжысуры, акцёрскага выканання. Яны вартыя быць наноў адкрытымі для сучаснага гледача. Беларускія кіноказкі — гэта ўвогуле ўнікальная з'ява, лічыць Юлія Ляшко. Яны заслугоўваюць грамадскай увагі, памяці ды любові.

«Старыя казкі» будуць выходзіць удзень па нядзелях. Першы выпуск, прысвечаны легендарнай прыгодніцкай карціне «Корцік» (рэжысёр — Мікалай Калінін), шырокая публіка пабачыць 7 верасня ў 14.05, а ў 14.30 будзе паказаны і гэты фільм.

**Яна ЯВІЧ**

# Восені мелодыі

Сёння горад Любань запрашае на II абласное свята мастацтваў «Палескія сустрэчы».

Свята парадуе вялікай канцэртнай праграмай з удзелам Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра пад кіраўніцтвам народнага артыста краіны, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафесара Міхаіла Фінберга. Гучаць класіка, эстрада, джаз. «Мы аднолькава ставімся да ўсіх кірункаў, галоўнае — каб музыка была напісана і выканана прафесійна, а таксама мела нацыянальную аснову», — адзначыў маэстра.

Падчас фестывалю пройдзе прэзентацыя кнігі доктара мастацтвазнаўства, прафесара Вольгі Дадзіёмавай «Музычныя промні Любані ў залатым коле Міншчыны». Паводле аўтара, беларуская культура моцная сваімі малымі гарадамі. Так склалася гістарычна, таму заканамерна, што менавіта на іх базе развіваецца фестывальны рух. Фэст носіць асветніцкі характар, яго арганізатары імкнуцца далучыць моладзь да музыкі, нацыянальнага мастацтва. Менавіта ў Любанскай школе мастацтваў распачаліся музычныя сустрэчы з ансамблем флейтыстаў Нацыянальнага акадэмічнага аркестра.

Адметнасць фэсту — сустрэча з юнымі таленавітымі творцамі школ мастацтваў Міншчыны ў межах абласной АРТ-сесіі, узнагароджванне і канцэрт лаўрэатаў рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі.

Свята праходзіць на трох пляцоўках — у Любанскай дзіцячай школе мастацтваў, Сароцкім сельскім Доме культуры і на цэнтральнай плошчы. Цудоўны падарунак для меламанаў — канцэрт беларускай класічнай музыкі «Любанскія мары Станіслава Манюшкі», прысвечаны 195-годдзю кампазітара. Лепшыя творы ў жывым выкананні артыстаў аркестра і лаўрэатаў міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў прагучаць у вялікай святочнай праграме «Цудоўныя восеньскія мелодыі».

Свята ў Любані задумана не толькі як музычнае. Тут збіраюцца навукоўцы, пісьменнікі, акцёры, мастакі, рамеснікі… Аднак душой святочнай праграмы, безумоўна, з'яўляецца аркестр Міхаіла Фінберга. Калектыў, які дэманструе высокі густ і сапраўдную любоў да айчыннай музыкі і беларускага паэтычнага слова.

**Васіль КАТКАВЕЦ**



Расціслаў БЕНЗЯРУК

***

*Жыццё гадоў размотвае клубок,*
*І час ад часу нітачка даўжэе…*
*Мне крочыць*
*у спякоту і завею,*
*Хаця не надта паскараю крок.*

*Узрост такі —*
*няма куды ляцець!*
*Дарогу засыпае жоўтым лісцем.*
*Наканавана быць мне летапісцам*
*Зямлі маёй,*
*дзе марыў пасталець.*

*Цяпер мне засталося ўспамінаць,*
*Што перажыў,*
*што чуў і, пэўна, знаю*
*Аб пераменах у радзімым краі,*
*Каб новым пакаленням*
*перадаць…*

*Прашу: «Ўсявышні,*
*выказацца дай*
*І не шкадуй,*
*каб працаваў да поту,*
*Згадаў усё, што ведаў я! А потым…*
*А потым,*
*як захочаш, —*
*так карай!..»*

## Маці і сын

*Я паўтару услед, як заклінанне:*
*«Няхай мой сын мяне перажыве!»*
**Яўгенія Янішчыц**

*Сын хварэе. У трывозе маці*
*Моліцца: хай гора праміне,*
*І здароўя просіць для дзіцяці:*
*«Сын няхай перажыве мяне!»*

*Злосна ў аканіцы стукаў вецер,*
*Дожджык парываўся зноў і зноў…*
*«Справядліва, калі плачуць дзеці,*
*Да магіл прыходзячы бацькоў! —*

*Гаварыла ў роспачы ад гора. —*
*Усявышні, сына зберажы!*
*Ён мая крывінка і апора,*
*А інакш як*
*я буду жыць?!»*

*Промень прабіраўся*
*стужкай вузкай,*
*Дакрануўся раптам галавы,*
*Сынавы тады шапнулі вусны:*
*«Ты не плач, матуля,*
*я… жывы».*

## Рабіна

*Зімовы малюнак: нізіна,*
*У шэрані белай лясы,*
*Чырвоным шматкроп'ем рабіна*
*Адна сярод снежнай красы.*

*І гэтым пагодлівым ранкам*
*Даймае рабіну мароз,*
*А вецер яе, палянянку,*
*Згінае, даводзіць да слёз.*

*Аднойчы хвілінаю горшай*
*Рашыла рабіна: «Аддам*
*Вятрам з маразамі ўсю горыч,*
*А слодыч пакіну драздам!»*

*Нядоўга мяцеліцам гушкаць*
*Рабіны трывожныя сны…*
*Да ягад злятаюцца птушкі,*
*Каб разам дажыць да вясны.*

## Ляцелі велічна буслы…

*Буслы, як нейкія паслы,*
*Паважную хавалі тайну.*
**Міхась Стральцоў**

*Ляцелі велічна буслы,*
*Як вёў важак у выра́й.*
*Здалося мне:*
*Яны — паслы*
*Ад Беларусі шчырай.*

*Раскажуць што ў той старане*
*Пра нас*
*І пра мясціны?*
*Што прынясуць нам па вясне*
*З далёкае краіны?*

*А нам тут жыць, і зімаваць,*
*І сніць вясновы вечар;*
*Буслоў чакаць*
*І сустракаць,*
*Бо халады не вечна.*

*Шум крылаў зноўку ловіць слых:*
*Напружана, без форсу*
*Ляцяць буслы,*
*Нібы паслы,*
*Край кінуўшы заморскі…*



Галіна ВАСІЛЕЎСКАЯ

## Мая зорка

*Я дзяўчынкай згубілася ў мроях,*
*Летуценна ішла па жыцці,*
*Мне свяцілі нябесныя зоры,*
*Шчасце марыла ў свеце знайсці.*

*Пакахала душою і сэрцам*
*Край свой, далі, прасторы яго.*
*Часта зменлівы дзьмуў вольны вецер*
*На дарогах юнацтва майго.*

*Апынулася хмарнаю ноччу*
*Я ў глыбінях няспыннай ракі…*
*Зорка ціха ружовая сочыць,*
*Быццам хоча крануцца рукі.*

*То самотна, то весела-шчасна*
*Над палеткамі сонца цвіце,*
*І гарыць мая зорка нязгасна —*
*Я ж блукаю, шукаю яе…*

## Яблынька

*За хатай яблынька —*
*Мною пасаджана.*
*Сарвала яблык я,*
*Чырвоны, гладзенькі.*
*Звонку прыгожы быў,*
*Покуль не кусаны,*
*Ды ў сарцавіне згніў —*
*Не крануць вуснамі.*

*Знайду свой яблычак,*
*Моцны, здаровенькі,*
*Сяду на ганачак*
*Ранкам пад промнямі.*
*Сонца паднімецца*
*Над маёй хатаю,*
*Яблынька схіліцца —*
*Бы вінаватая.*

## Крыніца

*Я над крыніцаю голаў схілю,*
*Як у люстэрку адбітак убачу,*
*Смагу крынічнай вадой наталю —*
*Сцюдзёнай,*
*празрыстаю,*
*смачнай.*

*Поглядам, сэрцам з Радзімаю быць,*
*Ранкам вясёлым з ёю смяяцца,*
*З Нёманам хуткім па хвалях плыць,*
*Роўняддзю ейных*
*палёў любавацца.*

*Над краявідамі сонца бліщчыць,*
*З лугам вітаецца, рэчкай і полем,*
*Ціхі санет над зямлёю гучыць*
*І напаўняе —*
*усё наваколле.*



Валянціна ГІРУЦЬ-РУСАКЕВІЧ

***

*Гады асеннімі лістамі шапацяць*
*І адлятаюць-падаюць*
*у Вечнасць...*
*Халодзячы лагоду пачуцця,*
*Туману хусткай*
*ахінаюць плечы...*

*А я — аб цёплым леце успамінам,*
*З яго такой гарачаю пяшчотай,*
*Хусцінку жорсткую*
*туману скіну*
*І мроі смелай*
*усміхнуся ўпотай.*

*І покуль мары сэрцайка трывожаць,*
*Апошняя ўсё ж песня не прапета.*
*Так, не ў разгары лецейка,*
*ды, можа,*
*Шчэ бабіна мяне*
*пацешыць лета?..*

***

*Мае вёсны, мае леты —*
*заасенілі…*
*Колькі я прасіла: не спяшы*
*Ты, сяброўка восень,*
*летуценнямі,*
*Дай яшчэ нацешыцца душы.*

*Толькі восень мне*
*дажджлівай прозаю:*
*— Не сумуй аб тым,*
*што не дагнаць,*
*Цешся мной, пакуль*
*зіма марозная*
*Не прыйшла*
*пачуцці закаваць.*

*Бо лунаюць мроі*
*летуценныя*
*У не стомленай*
*яшчэ душы,*
*Хоць і вёсны, хоць*
*і леты заасенілі,*
*Я жыццё прашу ўсё:*
*не спяшы!*

***

*Колькі ні жыві,*
*а спасцігаеш*
*Кожны новы крок,*
*нібы навуку.*
*І не ты, здаецца,*
*навучаеш,*
*А цябе ўжо вучаць*
*дзеці, ўнукі...*

*Так жыццё —*
*настаўнік наш*
*нястомны —*
*Дзень за днём,*
*за годам год упарта*
*Навучае нас.*
*Вось і сягоння*
*Ў новы дзень іду,*
*як зноў за парту,*
*Каб штодзённай*
*навізной дапоўніць*
*Тое, што пражыта-перажыта —*
*Жыць, тварыць, шукаць,*
*знаходзіць, помніць...*
*Прарастаць дабром,*
*як тое жыта,*
*Што ад слова «жыць»*
*бярэ аснову.*



Віталь КУНАШКА

***

*Жыццё пражыць —*
*не поле перайсці,*
*А дзе яна, чаканая крыніца,*
*Каля якой так*
*хочацца спыніцца*
*І да якой так хочацца прыйсці,*
*З душы цяжар балючы*
*ў вір зграбці,*
*Слязьмі пякучымі*
*наўзрыд заліцца,*
*Да берага надзейнага прыбіцца,*
*У месяца незвычайнае сысці.*

*Хоць і баліць, але ідзі цярпліва,*
*Бо ў змроку дзён душы*
*маўклівай ніва*
*Трывогу можа ў час любы забіць,*
*Чакае сейбіта —*
*ты ўвагі не звяртаеш,*
*Каб у пялюшкі,*
*як дзіця,*
*спавіць, —*
*Жыццё сваё,*
*бы каляндар, гартаеш.*

***

*Гарчычнае зерне*
*на поле сваім*
*Узяў чалавек і пасеяў.*
*І холад, і спёка*
*кружлялі над ім,*
*І вецер з усіх краёў веяў.*

*Маленькае зерне,*
*як вера з крылом,*
*Найменшае, што ёсць на свеце,*
*А вырасла дрэвам з магутным ствалом,*
*Зялёнае, тоўстае вецце.*

*І птушкі сабе гнёзды рупна вілі,*
*Дзе сонца вясну цалавала,*
*І звонкія песні паўсюдна плылі,*
*І вусны гарчылі*
*ўжо мала.*

*Такое во зерне Ісус сее ў нас —*
*Нятленнае Божае слова,*
*Каб светач любові,*
*што ў сэрцах, не гас,*
*І Творцу скарыцца — умова.*

*Каб жыў Ён у нас,*
*сваю волю тварыў,*
*Здзяйсняліся Божыя планы…*
*Для прагнучых замкі*
*на небе адкрыў,*
*І быў за наш*
*грэх пакараны.*

***

*Задажджылася,*
*Зажурыцелася,*
*А ўсё ж восені*
*Не хацелася.*
*Хай бы лецейка*
*Патрымалася,*
*Хай бы сонейка*
*Паўсміхалася.*
*Крокі лёгкія,*
*Вочы ветлыя,*
*Словы цёплыя,*
*Думкі светлыя,*
*Наўздагон жыццю*
*Сіл прыліў даюць,*
*Не праходзяць, не —*
*Для душы пяюць.*
*Не праходзь і ты,*
*Лета краснае,*
*Не мінай мяне,*
*Жыццё шчаснае.*
*Ты мяне знайшла,*
*Радасць светлая,*
*У жыццё ўвайшла,*
*Запаветная.*
*Задажджылася,*
*Зажурыцелася,*
*А ўсё ж восені*
*Не хацелася.*
*Лепей сонейка,*
*Дні гарачыя…*
*Ды за ўсё жыццё*
*Богу ўдзячны я.*

Сяргей БЕЛАЯР

# Выключэнне з правіл

## *Навукова-фантастычнае апавяданне*



Да прыбыцця ратавальнікаў заставалася ўсяго нічога, але для Канстанціна Басалыгіна гадзіны расцягнуліся да вечнасці. Ішлі чацвёртыя суткі вымушанай адзіноты — сярод трупаў, у барацьбе са страхам. З дзесяці адсекаў рудаздабываючай станцыі толькі адзін ён не пацярпеў пасля выбуху энергаўстаноўкі.

За сценамі бушавала пясчаная бура. Канстанцін Басалыгін стараўся не думаць пра тое, што выйсці на паверхню мог толькі вар'ят. Час ад часу ахоўны купал уздрыгваў — вецер парывамі дасягаў хуткасці дваццаць чатыры метры за секунду. Планетоід быў няветлівы, затое багаты на карысныя выкапні.

У той момант, калі Канстанціну здалося, што ратавальнікі ніколі не з'явяцца, пачуліся глухія ўдары. Занадта рытмічныя для галюцынацыі. Сэрца інжынера-геолага забілася хутчэй. Схапіўшы першае, што трапілася пад руку, паспяшаўся да шлюзавай камеры і пачаў азвярэла біць па дзвярах. І яго пачулі.

Ратавальнікам спатрэбілася амаль гадзіна, каб патрапіць унутр. Увесь гэты час інжынер-геолаг сціскаў потнымі рукамі гаечны ключ і з цяжкасцю стрымліваў слёзы. У апошнюю секунду ногі ўсё ж падкасіліся — адбілася перажытае.

Ратавальнікі падхапілі Канстанціна Басалыгіна пад рукі і асцярожна пасадзілі на скрыню. Рэзкі пах нашатырнага спірту прывёў інжынера-геолага ў пачуццё. Яму далі напіцца.

— Усё скончылася! — запэўніў камандзір ратавальнікаў. Яго погляд быў напоўнены шчырым спачуваннем.

— Вялікі дзякуй! — удзячнасць Канстанціна Басалыгіна з'яўлялася такой жа непадробнай.

Праз чвэрць гадзіны інжынер-геолаг апынуўся на борце бота, дзе ім заняўся лекар.

— Нічога сур'ёзнага — усяго толькі нервовае і фізічнае знясіленне! Здаровы сон, вітамінізаваная ежа і спакой паставяць яго на ногі хутчэй, чым мы вернемся на базу!

— Добрая навіна! — мяркуючы па інтанацыі, афіцэр сапраўды лічыў навіну добрай. Гэта выклікала ў Канстанціна Басалыгіна сімпатыю да яго. — Адвядзіце яго ў душ, накарміце, дайце чыстае адзенне і ў трэці медыцынскі бокс. А мы пакуль скончым са справамі!

— Добра... Зможаце ісці самі?

— Думаю, што так.

— У такім выпадку — прашу за мной!

Трэці медыцынскі бокс аказаўся прасторным памяшканнем з двума ложкамі. Інжынер-геолаг заснуў, ледзь дакрануўшыся галавою да падушкі. Упершыню за апошнія суткі ён адчуў сябе ў бяспецы.

— Добрай раніцы! — першым, хто нанёс візіт Канстанціну Басалыгіну, быў камандзір ратавальнікаў. Афіцэр прадставіўся, апусціўся на суседні ложак і клапатліва пацікавіўся: — Як самаадчуванне?

— Мне нашмат лепш.

— Зможаце адказаць на некалькі пытанняў? Я не хацеў вас турбаваць, але... Самі разумееце, служба! — Палямон Дзёмуха глянуў прама ў вочы Канстанціна Басалыгіна.

— Тым больш што я — адзіны сведка... — інжынер-геолаг погляд вытрымаў. Яму не было ў чым сябе абвінавачваць. — Задавайце! Рана ці позна ўсё роўна прыйдзецца даваць адказы!

— З вашага дазволу! — наступіла хвілінная паўза. Афіцэр выцягнуў з кішэні планшэтны камп'ютар і падрыхтаваўся рабіць пазнакі. — Як даўно вы на станцыі?

— Гэта мая трэцяя двухгадовая вахта.

— У тым жа складзе? — стыло шпацыравала па экране.

— За некаторым выключэннем так.

— Гэта значыць, вы асабіста ведалі калі не ўсіх, то шмат каго? Маё пытанне выклікана не пустой цікаўнасцю — мне трэба ведаць, ці не быў выбух наўмысным!

— За ўсіх не паручуся! Мне здаецца, ні ў кога не мелася падставы для таго, каб узарваць станцыю. Калектыў быў дружным! Ды й не дапусцілі б псіхолагі да місіі чалавека з няўстойлівай псіхікай — тэсты падмануць немагчыма. Я таксама выключаю і магчымасць дыверсіі. Не той час!

— Трагічная выпадковасць? — і зноў ацэньваючы погляд. Канстанцін Басалыгін кіўнуў. — Калі ласка, раскажыце, як усё адбылося.

— Быў звычайны працоўны дзень. Прыкладна ў трынаццаць трыццаць з восьмага адсека паступіў сігнал аб паломцы трансфарматара. Я ўзяў інструменты і адправіўся туды. Мая другая спецыяльнасць — электрык.

— А штатны дзе знаходзіўся ў гэты момант?

— Злёг з засмучэннем страўніка, як і яго памочнік. На месцы аказалася, што паломка вельмі сур'ёзная — былі абясточаны драбільныя апараты паўднёвага і ўсходняга сектараў. Я запытаў у каменданта дапамогі і неадкладна ўзяўся за рамонт.

— Прастой каштуе вялікіх грошай?

— Велізарных — апараты павінны працаваць кругласутачна! Па гэтай прычыне побач з імі былі створаны запасы руды на пяць сутак, таксама меўся двайны камплект запасных частак... Па маіх падліках, да таго, як прагрымеў выбух, прайшло крыху больш за чвэрць гадзіны. Станцыю скаланула, як пры моцным землятрусе, пагасла святло, затым аўтаматычна спрацавала блакіраванне дзвярэй. Менавіта дзякуючы сістэме бяспекі я і застаўся жывы... — інжынер-геолаг змахнуў слязу. Казаць было цяжка.

Палемон Дзёмуха моўчкі чакаў працягу. Праз некалькі хвілін Канстанцін Басалыгін узяў сябе ў рукі.

— Я надзеў скафандр — па некалькі штук захоўваецца ў кожным адсеку — і прабраўся ў суседні. Ён быў чорны ад сажы... Усе былі мёртвыя... Дзякую! — інжынер-геолаг адпіў са шклянкі. Зубы стукалі па пластыку. — Далей я не пайшоў. Занадта высокім быў узровень радыяцыі...

— Ды й не прайшлі б — дзверы ў наступны адсек заклінавала, а цяжкія вонкавыя створкі ўручную адкрыць немагчыма. Вы ўключылі аварыйны сігналізатар, як толькі вярнуліся ў адсек?

— Так! Пры інструктажы нам сказалі, што ад хуткасці падачы сігналу залежыць наша жыццё.

— Вы ўсё зрабілі правільна, спадар Басалыгін!

— Я спадзяваўся на тое, што камусьці яшчэ пашчасціла выжыць, але гадзіны ішлі, а ніхто не прыходзіў... Выбачайце!

— Вазьміце сурвэткі! Калі хочаце, можам працягнуць у іншы раз.

— Я не змагу доўга насіць гэта ў сабе! — інжынер-геолаг выцер слёзы і вярнуўся да аповеду. — З ежы ў мяне была толькі плітка шакаладу, якая выпадкова апынулася ў кішэні камбінезона. Я стараўся эканоміць ваду, але некалькі літраў з пляшак скафандра скончыліся да зыходу трэціх сутак. Прыйшлося піць тэхнічную, папярэдне працадзіўшы яе праз фільтр, зроблены з бінтоў і таблетак актываванага вугалю. Мярзотны, скажу я вам, смак, аднак выбіраць не даводзілася... Пяцідзесяці літраў павінна было хапіць надоўга, а вось бінтоў і вугалю... Калі б вы прыляцелі на два-тры дні пазней, я мог памерці ад смагі ці атручэння...

— Вы мужны чалавек, спадар Басалыгін!

— Звычайны, проста прыпёрты да сценкі абставінамі...

— Вамі ж і створанымі!

— Прашу прабачэння? — Канстанцін Басалыгін здзіўлена ўскінуў бровы.

— Вы не ахвяра, а злачынец! — у голасе Палемона Дзёмухі з'явіўся метал.

— Вашы словы абразлівыя! — інжынер-геолаг прыўзняўся на ложку, поўны абурэння. — Вам павінна быць сорамна за цынічныя інсінуацыі! Я патрабую выбачэння! І зараз жа!

— Ваша гульня вышэй за ўсялякія хвалы! Упэўнены, у турме яе па вартасці ацэняць!

— Я буду скардзіцца вашаму кіраўніцтву!

— Корпус не разглядае скаргі злачынцаў, вінаватых у наўмысным забойстве дваццаці шасці чалавек. Столькі, здаецца, працавала на станцыі?.. Я збіраюся арыштаваць вас, спадар Басалыгін.

— Што за трызненне? Вы, напэўна, забыліся, што шок у мяне, а не ў вас!

— Ляжце, спадар Басалыгін! У адваротным выпадку я буду вымушаны аддаць загад прывязаць вас да ложка!

— Гэта абуральна!

— Не крычыце! Абуральныя не мае словы, а вашыя дзеянні. На Зямлі вас чакае суд і суровы прысуд! — голас афіцэра гучаў спакойна і нават абыякава.

— Вы — вар'ят! — Канстанцін Басалыгін адмаўляўся верыць сваім вушам. — Я нікога не забіваў!

— Гэта быў выдатны план, спадар Басалыгін. Вы прадумалі ўсё да дробязяў! Атручэнне электрыка і яго памочніка дазволіла ліквідаваць канкурэнтаў, якія маглі выявіць, што трансфарматар спецыяльна сапсавалі. Паломка дазволіла вам пакінуць астатніх і тым самым ацалець падчас выбуху. Як інжынер-геолаг вы мелі доступ да выбухоўкі — мы знайшлі мікрачасціны сярод абломкаў энергаўстаноўкі. Вялікай магутнасці зарада не патрабавалася — дастаткова было запаліць адпрацаванае паліва...

— Лухта!

— За гадзіну да выбуху вы ўзялі ўсюдыход і пакінулі станцыю. Далёка ад'язджаць было не трэба — рэльеф планетоіда дазваляе схаваць на яго паверхні нават касмічны карабель. Ваш ад'езд ні ў кога не выклікаў пытанняў — што можа быць больш натуральным, чым планавая паездка інжынера-геолага?

— Вам бы дэтэктывы пісаць!

— Абавязкова падумаю над вашымі словамі пасля таго, як выйду на пенсію, спадар Басалыгін... Заклаўшы схованку, вы вярнуліся на станцыю.

— Бачу, што людзі вашай прафесіі маюць багатае ўяўленне. Нават залішне багатае!

— Вы замкнуліся ў восьмым адсеку, як найбольш аддаленым ад эпіцэнтра, вычакалі некаторы час пасля выбуху, затым уключылі сігналізатар. Пасля гэтага вам заставалася толькі дачакацца ратавальнікаў... Вы паклапаціліся аб уласнай шкуры — пратэставалі сігналізатар за суткі да выбуху, пад завязку напоўнілі бак вычышчанай тэхнічнай вадой, пракантралявалі, каб у аптэчцы былі бінты і актываваны вугаль... Вы хацелі назапасіцца ежай на некалькі сутак, аднак гэта магло выклікаць падазрэнні. Таму вам прыйшлося здавольвацца адной шакаладнай пліткай, якая нібыта выпадкова апынулася ў кішэні...

— Вы разумееце, што я магу падаць на вас у суд за паклёп? Вашы выдумкі не пацверджаны ні адзіным доказам! Любы адвакат разнясе вашы інсінуацыі ў пух і прах за лічаныя хвіліны!

— Я ніколі не кідаюся словамі, спадар Басалыгін! Калі дазволіце, працягну!

— Дзеля Бога! Мне нават цікава, наколькі багатая ваша фантазія.

— Для таго каб замесці сляды, вы скарысталіся крадзеным паролем і ўлезлі ў галаўны камп'ютар. Вы не хацелі рызыкаваць — выбух не гарантаваў, што цэнтральны працэсар будзе знішчаны.

— І што ж я, па-вашаму, хацеў схаваць?

— Самародак.

— Чаму ж так дробна? Да гэтага моманту палёт вашай фантазіі ў нейкай ступені нават быў мне да гонару. А тут геній злачыннай задумы — і нейкі самародак!

— Не нейкі, а такі, што дазваляе набыць статус мультымільянера!

— Ужо лепш!

— У вас бы ўсё атрымалася, калі б ні адно «але»... Мелася ў каменданта, з якім я быў знаёмы асабіста, адна дзіўная па цяперашніх часах звычка — ён лічыў, што лепшым носьбітам інфармацыі з'яўляецца папера...

— І што? Якая тут сувязь?

— Прамая! — афіцэр прыбраў планшэтны камп'ютар і дастаў з унутранай кішэні кіцеля патрапаны абпалены нататнік. — Падзеі, якія Тэадор Гаурмс лічыў значнымі, ён запісваў.

Афіцэр прагартаў некалькі спісаных дробным почыркам старонак.

Канстанцін Басалыгін збялеў, але хутка знайшоўся:

— Я куплю ваша маўчанне за дзесяць адсоткаў!

— Спадар Басалыгін! — Палямон Дзёмуха прыгнечана паківаў галавой.

— Дваццаць! Гэта вялікая сума! Вельмі вялікая!

— Спроба подкупу службовай асобы!

— Трыццаць! Хопіць не толькі вам, але і вашым унукам!

— Я не настолькі ненажэрны, як вы, спадар Басалыгін. Прапануйце мне хоць усё, я не вазьму грошай, на якіх кроў дваццаці шасці чалавек!

— Дурань! Які ж вы дурань! Грошы самі плывуць да вас у рукі, а вы адмаўляецеся. Вам ніколі не зарабіць і дзясятай часткі кошту самародка!

— Можа быць, затое маё сумленне застанецца чыстым!

— Сумленне? Ды каму патрэбны перажыткі мінулага? Грошы — вось сапраўдная каштоўнасць!

— Вы адправіцеся ў турму, спадар Басалыгін, а там грошы вам будуць ні да чаго — пра ваша забеспячэнне паклапоціцца дзяржава!

— Я разглядаў і такі варыянт. Максімум, што мне пагражае, — дзесяць гадоў. Дзякуй ліберальнаму заканадаўству! Што такое дзесяць гадоў у параўнанні з пяцідзесяцьцю або шасцідзесяццю гадамі, якія я збіраюся пражыць, ні ў чым сабе не адмаўляючы? Забі я хоць сотню, дзве, тры, суд ніколі не дасць мне больш за дзесяць гадоў!.. І зусім не факт, што прысяжныя прымуць да ўвагі запісы Гаурмса!

Афіцэр нахмурыўся і зайграў вужлакамі.

— Дастаткова будзе намякнуць на яго неадэкватнасць — наступствы кантузіі, вы разумееце!

— У Тэадора ніколі не было праблем з псіхікай — ані ў войску, ані пасля!

— Цяжка прыдумаць? Маючы мінімальныя акцёрскія здольнасці, будзе нескладана пераканаць прысяжных у тым, што Гаурмс быў псіхапатам і тыранам!

— Вы яшчэ і падлюга!

— Вашы абразы зусім мяне не кранаюць! Хутка я буду багатым, а вы... вы кусайце локці і цешце самалюбства трызненнямі пра мараль! Убогія заўсёды прыдумляюць апраўданні ўласнай неплацежаздольнасці. Самародак вам ніколі не знайсці — можаце нават не імкнуцца!

— А вы ж зусім не каецеся!

— Павінен? — інжынер-геолаг не ўтрымаўся ад усмешкі.

— Ані пачуцця віны, ані пакут сумлення... Дваццаць шэсць чалавек — яны ж былі вашымі сябрамі і калегамі!

— Не пашанцавала ім.

— Не пашанцавала? — вочы Палямона Дзёмухі палезлі на лоб. — У вас што, зусім няма сэрца?

— Спыніце гэты балаган! Збіраецеся арыштоўваць мяне, дык арыштоўвайце, але, будзьце ласкавы, вызваліце ад павучальных гутарак! Я не настроены выслухоўваць лухту!

— Ведаеце, спадар Басалыгін, упершыню я шкадую аб тым, што ў нас уведзены мараторый на смяротнае пакаранне! Такіх, як вы, трэба аддаваць кату!

— Колькі пафасу… Але не вам вырашаць мой лёс! Вы — усяго толькі пешка. Тупы выканаўца. Вы абавязаны і будзеце прытрымлівацца правіл.

— Няма правіл без выключэнняў, — ціха сказаў Палямон Дзёмуха.

Канстанцін Басалыгін здрыгануўся. Ён усё зразумеў без тлумачэння.

— Вы не зробіце гэтага!

— Чаму?

— Вы павінны даставіць мяне ў турму! — інжынер-геолаг сарваўся на крык.

— У адкрытым космасе часта здараюцца няшчасныя выпадкі...


Фота з сайта bagdanovich.by

# Маці паэта

## Да 145-годдзя нараджэння Марыі Апанасаўны Багдановіч

*Хвалююць сэрцы нам дзявочыя пастаці,*
*І душы мацярэй нас могуць чараваці…*
**М. Багдановіч «У вёсцы»**

Калі цікавішся творчасцю паэта, то рана ці позна абавязкова паўстае пытанне адносна яго паходжання, сям'і, якая ўзгадавала, бацькоў, праз якіх прыйшоў у свет. Якой была Марыя Апанасаўна Багдановіч, што дала Айчыне неўміручага генія беларускага слова, волата духу, выбітнага паэта Максіма Багдановіча?

Марыя Апанасаўна Багдановіч, да замужжа Мякота, пакінула гэты свет зусім рана, на 28-м годзе жыцця, таму сведчанняў пра яе захавалася небагата. Пра характар жанчыны можна меркаваць па ўспамінах мужа і бацькі дзяцей Адама Ягоравіча Багдановіча, па іх перапісцы, а таксама па адзіным надрукаваным яе апавяданні «Напярэдадні Калядаў». Што да звестак сацыяльнага характару, адносна вучобы Марыі Апанасаўны, то ў фондах Літаратурнага музея Максіма Багдановіча захоўваюцца нешматлікія дакументы з адпаведнай інфармацыяй.

22 лютага 1869 года ў сям'і губернскага сакратара Апанаса Іванавіча Мякоты і яго жонкі Таццяны Восіпаўны (абодва паходзілі са святарскага роду) нарадзілася другая дачушка Маша. Дзяцінства яе рана скончылася са смерцю бацькі, адзінага кармільца сям'і ў 1878 годзе. Неўзабаве Марыя разам са сваёй малодшай сястрой Аляксандрай трапіла ў Мінскі дзіцячы прытулак (знаходзіўся на рагу Петрапаўлаўскай і Падгорнай вуліц, зараз — вуліц Энгельса і Карла Маркса). Вось што згадвае Адам Ягоравіч Багдановіч пра тыя падзеі: «Маці Максіма параўнаўча пашчасціла: як жывая, багата адораная дзяўчынка з раскошнымі валасамі, яна звярнула на сябе ўвагу апякунікі прытулку губернатаршы Пятровай, якая ўзяла яе да сябе ў дом». Дзіцячым прытулкам апекавалася тады жонка мінскага губернатара Аляксандра Іванавіча Пятрова, якая ў 1880 годзе актыўна займалася дабрачыннай дзейнасцю, арганізоўвала збор ахвяраванняў для бедных, прымала наведвальнікаў па пытаннях прытулку.

Юную Марыю Мякота губернатарша паслала вучыцца ў Мінскае трохкласнае жаночае вучылішча (у сваіх успамінах Адам Ягоравіч памылкова называе яго Аляксандраўскім). Знаходзілася яно ў раёне цяперашняй Кастрычніцкай плошчы, а тады — па адрасе Юр'еўская, 13, дом Мураўчыка. Марыя скончыла гэту навучальную ўстанову ў 1882 годзе з выдатнымі адзнакамі па ўсіх прадметах: рускай мове, рускай гісторыі, арыфметыцы, геаграфіі, чыстапісанні, законе Божым, рукадзеллі, спевам.

На падставе пасведчання аб выдатным заканчэнні гэтай навучальнай установы мы можам меркаваць пра нешараговыя здольнасці Марыі Апанасаўны да навукі. Пацверджаннем гэтаму з'яўляецца і той факт, што губернатарша за свой кошт пасылае Марыю у Санкт-Пецярбург, у земскую настаўніцкую школу працягваць адукацыю.

Да яе, дзяўчыны з прытулку, яна ставілася як да роднай. Пасяліла яе ў Пецярбургу на кватэры сваіх родзічаў Пятровых, лічыла сваім абавязкам даць ёй самае неабходнае для дарослага самастойнага жыцця — адукацыю, каб яна заўжды была запатрабаваная ў грамадстве і не ведала безграшоўя. Прадметы, якія выкладалі ў земскай настаўніцкай школе, былі амаль такімі ж, як і ў Мінскім жаночым вучылішчы, а яшчэ дадавалася фізіка, натуральная гісторыя, маляванне, вузкаспецыяльныя прадметы па педагогіцы пачатковай школы.


Фота з сайта litmuseums.iatp.by

Да пецярбургскага перыяду жыцця Марыі Апанасаўны належыць яе сачыненне «Сям'я ў справе выхавання чалавека» — захапленне сістэмай выхавання нямецкага педагога Ф. Фрэбеля, якую потым яна будзе выкарыстоўваць у выхаванні сваіх дзяцей. У фондах Літаратурнага музея М. Багдановіча захоўваюцца два вершы Дзмітрыя Меражкоўскага (паэт, пачынальнік рускага дэкадансу), перапісаныя рукой Марыі Апанасаўны: «И хочу, но не в силах любить я людей…» і «Порой, как образ Прометея…». Невядома, у якой ступені Марыя Апанасаўна была аматаркай яго паэтычнага таленту, але думаецца, што пранізліва-шчымлівыя радкі (пачатковая страфа першага з вершаў) не маглі не выклікаць у яе тонкай, надзвычай адчувальнай душы пэўных перажыванняў і алюзій з уласным лёсам:

*И хочу, но не в силах любить я людей:*
*Я чужой среди них; сердцу ближе друзей —*
*Звезды, небо, холодная, синяя даль*
*И лесов, и пустыни немая печаль...*

Мажліва, адчуванне душэўнай адзіноты ім і было для яе той глебай, на якой хутка разгарэўся агонь яе кахання да Адама Багдановіча. З ім пазнаёмілася, калі прыехала на вакацыі на радзіму, правучыўшыся ў Пецярбургскай земскай настаўніцкай школе 2 гады. Неўзабаве закаханы Адам прапанаваў дзяўчыне руку і сэрца: 30 кастрычніка 1888 года маладыя павянчаліся. Марыі заставалася скончыць апошні клас, але, пэўна, у яе новым статусе гэта было ўжо немэтазгодна ці немагчыма. Так ці не, аднак даведкі пра заканчэнне Марыяй (ужо Багдановіч) Пецярбургскай школы мы не маем. Засталося толькі сведчанне яе маці Таццяны Восіпаўны Мякота, якая не магла даравацъ зяцю таго, што ён «сарваў Машу з вучобы».

«Незвычайная жывасць успрыняцця, і пачуццяў, і руху была асноваю, найярчэйшай рысай яе натуры. Рухавая, заўсёды вясёлая, з іскрыстымі вачыма, з касой неверагоднай велічыні, яна ў дадатак валодала грацыяй кацяняці і той неадольна чаруючай прывабнасцю, якую прынята называць жаноцкасцю.

Яе карткі не даюць ніякага ўяўлення не толькі пра духоўны воблік, але нават і пра знешні. Гэта — маска, пазбаўленая жыцця; а яна была ўся зззяючая, песня-жыццё, уся — рух, радасць, захапленне». Такой згадваў Марыю Апанасаўну Адам Ягоравіч Багдановіч, калі прайшло не адно дзесяцігоддзе пасля яе смерці. Такой яна з'ўлялася ў самыя шчаслівыя гады свайго жыцця, калі бязмежна кахала і была каханай, калі стала маці і ўсю сябе аддавала дзецям, прыдумляючы для іх розныя гульні і праводзячы ў клопатах усе дні з ранку да вечара. Не атрымаўшы ў поўнай меры бацькоўскай любові і цеплыні сямейных узаемаадносін па прычыне свайго ранняга сіроцтва і галечы, Марыя Апанасаўна зрабіла ўсё, каб яе дзеці не былі абдзеленымі мацярынскай любоўю і пяшчотай. Як згадваў пра Марыю Апанасаўну Адам Ягоравіч: «Адзінае, у чым яна была непапраўная, неаб'ектыўная, несправядлівая, дык толькі ў тым, что лічыла сваіх дзяцей без параўнання лепшымі за ўсякіх іншых дзяцей, ёй вядомых…» Але хіба можна папракнуць маці за гэта?

Тым больш што ў яе чулым сэрцы было месца і для іншых, нават незнаёмых ёй дзяцей. З яе лістоў Адаму Ягоравічу з маёнтка Вязьзе, дзе яна разам з трыма сынамі правяла некалькі месяцаў (красавік-ліпень) у 1895 годзе ў сваёй старэйшай сястры Сцепаніды, мы даведваемся не толькі пра шмат якія акалічнасці жыцця сям'і Багдановічаў у вёсцы, але і пра тое, як Марыя Апанасаўна ставілася да навакольных людзей, вясковых жыхароў, калі сутыкалася з іх бедамі і праблемамі. Марыя не была медыкам па адукацыі, але ў Вяззі ўвесь час кагосьці лячыла, дапамагала, раіла нешта па пытаннях здароўя. Тут дарэчы прывесці цытату з аднаго ліста Марыі Багдановіч да мужа: «Я тут праславілася як добрая лекарка, ад хворых адбою няма». Марыя Апанасаўна таксама падрабязна апавядае, каму і як яна дапамагла: гадаваламу дзіцяці вылечыла жывоцік; жанчыне параіла, як суцішыць зубны боль, іншую вылечыла ад удару; былога салдата — ад запалення лёгкіх; яшчэ адно дзіця лячыла ад залатухі. Марыя Апанасаўна нават сама прывівала дзецям воспу такім чынам: «…Лёвачку сёння прышчапілі воспу; быў тут … фельчар яўрэй і я запрасіла яго. Не ведаю, ці прымецца. Калі прышчэпка акажацца няўдачнай, то буду прышчапляць другі раз сама; навука невялікая і я нават думаю, што зраблю ўсё лепш за фельчара, якога мне яшчэ давялося вучыць, як дызенфекаваць інструменты…» Так пазней і выйшла: фельчарская воспа не прынялася, і потым Марыя Апанасаўна рабіла гэту працэдуру дзіцяці самастойна, што мела станоўчы вынік.

Марыя Апанасаўна дзялілася з хворымі вяскоўцамі ўласнымі лекамі, а калі ў яе аптэчцы не аказвалася патрэбных медыкаментаў, то ў пісьмах звярталася да мужа з просьбай купіць і прысланць ёй пасылкай.

Яна не вучылася на фельчарскіх курсах, і ў пецярбургскай настаўніцкай школе не выкладаліся медыцынскія дысцыпліны: адпаведныя веды і навыкі яна набыла самастойна. А яшчэ былі пэўная цвёрдасць характару, пры ўсёй жаноцкасці, і жаданне аддаваць сябе тым, каго любіла, каму была патрэбна дапамога, хто быў побач. Думаецца, у такой самаахвярнасці і ёсць найвышэйшы сэнс існавання Жанчыны і Маці: ім праз гады да глыбіні душы будзе захоплены, зачараваны Максім Багдановіч, — найсвятлейшы вобраз рафаэлевай Мадонны, што дасць Максіму натхненне ў яго будучай творчасці.

Калі ж Марыя Апанасаўна сама захварэла на сухоты хуткацечнай формы, ёй не здолелі дапамагчы. Яна памёрла ў Гродне 4 кастрычніка 1896 года, тут і пахавана на праваслаўных могілках. Жыццё Марыі Багдановіч можна параўнаць хіба што са знічкай, якая ярка ўспыхнула і згасла. Магчыма, таму гэты вобраз стаў пазней адным з самых знакавых і любімых у паэзіі яе сына Максіма. Меnавіта маці яму не ставала ў далейшым больш за ўсё, і зусім невыпадкова яе вобраз аказаўся найшчыльней звязаны з вобразам Радзімы, служэнне якой паэт зрабіў сэнсам свайго жыцця:

*Маці родная, Маці-Краіна!*
*Не усцішыцца гэтакі боль…*
*Ты прабач, Ты прымі свайго сына,*
*За Цябе яму ўмерці дазволь!..*

**Таццяна БАРАДУЛЯ,**
**старшы навуковы супрацоўнік філіяла Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Літаратурнага музея Максіма Багдановіча**

# «Хто з вас вершы фабрыкуе?»

**У фонд Максіма Багдановіча ў Літаратурным музеі М. Багдановіча трапілі матэрыялы з архіва Аляксандры Уласавай, у тым ліку занатаваныя ёю ўспаміны мужа, Аляксандра Уласава, пра Якуба Коласа, прасякнутыя цеплынёй чалавечых адносін, пачуццём сяброўства, верай у адраджэнне роднага краю. Стасункі між супрацоўнікамі «Нашай Нівы» даўно не «белая пляма» ў нашай літаратурнай гісторыі, але новыя штрыхі тут з'яўляюцца нячаста. Адзначу, што менавіта Аляксандр Уласаў прапанаваў часовую працу ў рэдакцыі «Нашай Нівы» і сродкі для існавання Канстанціну Міцкевічу, які пасля настаўніцкага з'езда на Прыстаньцы (каля вёскі Мікалаеўшчына) не меў працы і сталага заробку. На час напісання ўспамінаў А. Уласаву было шэсцьдзясят два гады. Правапіс і знакі прыпынку — паводле рукапісу А. Уласавай.**

**Людміла САСОНКА, загадчык сектара ўліку і захоўвання фонду Максіма Багдановіча Літаратурнага музея М. Багдановіча**



*Аляксандр Мікітавіч Уласаў з жонкай Аляксандрай Паўлаўнай і дзецьмі — Алегам і Дзмітрыем. Мігаўка, 1927 г.*

## Памятная сустрэча з Якубам Коласам (з дарэвалюцыйнага мінулага) прысвечана дню нараджэння

Маладыя мае чытачы!

Ваша жыццё ўсё ўперадзе. Ваша вера ў шчаслівую будучыню, яна недзе за ружовымі хмаркамі-летуценнямі — там адкрываюцца новыя і новыя далі. Наша пакаленне несла свае ідэалы вызвалення народаў пакрыўджаных, занядбаных, — пашанавання ўсіх цяжка працуючых, на карысць не сваю, а чужую. Мае равеснікі і аднадумцы клалі свае маладыя гады, свае асабістае шчасце, сваё здароўе, сваё жыццё. Многа іх звалілася ў баразну, аддаўшы ўсе сілы даканца.

Ехаў я ў трэццяй класе. Раптам увалівается лапцюватая грамада беларусоў з Нёмана. Загналі плыты ў Коўны, едуць назад па Нёману, каб зноў гнаць дрэва.

Мяне тады распірала, як кажуць, ад агітацыі, разгаварыўся скора, чытаў вершы Мацея Бурачка. Тады не было яшчэ ні Купалы, ні Коласа. Плытнікі з в. Мікалаеўшчына. Гэта вёска дастаўляла нятолькі «рачных ваўкоў», але і настаўнікаў народных. Мне кажуць: «а ў нас адзін настаўнік «смешна» чытае па-нашаму».

Праз нейкі час быў у Мінску з'езд настаўнікаў, на дачы на Камароўцы. На гэтым з'ездзе я спытаўся: «Хто тут з Вас з Мікалаеўшчыны беларускія вершы фабрыкуе?»Выходзіць лабаценькі, з чорнай маладзенькай бародкай. Від у яго быў не зусім забіты семінарскай трафарэтнай вучобай.

Я павёў гэтае жамчужнае зярнё да знаёмых калег. Мой малады настаўнік развярнуўся. «Но лишь божественный глагол до слуха чуткого коснется, душа поэта встрепенется, как пробудившийся орел!» Хлапец пераабразіўся, вочы яго з'зялі, твар адухатварыўся. Мілагучныя рыфмы спявалі ў яго.

Мы ўсе зразумелі, што перад намі — узыходзячая зорка беларускай паэзіі.

Цяпер пяройдзем да «Нашай Нівы» (1905-6 г.)

Пачатак беларускай прэсы быў увесь час на ахвярах і цяжкай начной працы. Трэба было выпрацоўваць беларускую мову. Як мы вытрымалі гэту работу, я не разумею. Маладосць, нязломная воля і энтузіязм! Прыбыў да нас урэшце і Я. Колас. Далі яму адпаведную работу.

Прысылалі ў «Нашу Ніву» многа вершаў, разказаў, карэспандэнцыяў. Колас меў многа працы. З благіх вершаў рабіў добрыя, і местачковы вершаплёт, прачытаўшы свае вершы сваім знаёмым, дзівіўся разам з імі: якія пекныя вершы!»

Колас ўнес многа гумару ў рэдакцыю: чалавек ён быў жыццёрадасны, у жыццё нашае «богемы» ўносіў у вольныя хвіліны многа вяселля.

Помню, як я ў Мінску хадзіў у турму да Коласа. За барацьбу супраць царскіх парадкаў, за ўдзел у нелегальным з'ездзе ён дастаў тры гады (1908-11 г.), прасядзеў паэт у Мінскім астрозе.

Помню, недзе ў завулку, драўляную турму, тыпу павятовай турмы, досыць патрыярхальную. «Старшой» пікулік, убачыўшы мяне з дарамі прыроды, кажа: «Паклічце Кінцінціна Міцкевіча».

З нутра турмы выходзіць неяк баязліва наш паэт. Вядзем гутарку, але паблізу знаходзіцца стражнік.

Пасля турмы Я. Коласа (Міцкевіча) зрабілі настаўнікам тайнай беларускай школы.

Браце Якубе! Чуў я твой голас праз радыё, чуў і гарачае прывітанне мінскай публікі. Прайшоў ты праз жыццё, зрываючы, як маё пакаленне мала кветак і многа тернаў і турмы. Для мяне ўсё-ж гэта гонар, што я першым цябе расшукаў — не праз абвесткі ў газетах, а праз лапцюватых сялян-мужыкоў!

Дзе мае таварышы старыя?

Большасць спіць у зямлі сырой. Праз іх трупы прайшлі новыя барцы, утрымліваючы заваяваныя папярэднікамі пазіцыі, смела імкнучыся далей — уперад. І як наша пакаленне старалася вызваляць і дух народу з рабскае залежнасці ад чужынцаў, так і вы, маладыя, мусіце гэта рабіць і стварыць новы перыяд, які-б адыграў няменшую ролю ў беларускім рэнесансе, як першыя ў «нашаніўскі».

**1936 г.**





# Бачыць скрозь сцены

**Найбольш надзейны спосаб спазнаць чалавека — паглядзець на яго ў цяжкіх абставінах. Калі нечаканасці лёсу ціхай, але ўпэўненай хадой падкрадваюцца і заспяваюць знянацку — здымаюцца ўсе маскі. Людзі, пра якіх піша Анатоль Бутэвіч у кнізе «Пацалунак на фоне гор», сапраўдныя, з недахопамі і праблемамі, не «загрыміраваныя» гераізмам і патэтыкай. І гэтая натуральнасць прываблівае.**

Зборнік апавяданняў, які з'явіўся ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», нездарма мае такую паэтычную назву. Усе творы быццам складаюць маляўнічы эцюд, дзе людзі і прырода паяднаныя ў адзіным калаўроце пачуццяў і дзеянняў. Што ж рухае светам? «Каханне!» — сцвярджае пісьменнік. Здаецца, аўтар умее бачыць і чуць скрозь сцены — настолькі падрабязна і трапна апісвае ён адносіны ў звычайных сем'ях: паміж бацькамі і дзецьмі, сёстрамі і братамі, закаханымі і тымі, хто разыходзіцца назаўсёды... За шэрымі мурамі разгортваюцца амаль шэкспіраўскія драмы, сумныя і рамантычныя.

Свет прыроды таксама паўстае надзвычай жывым і зменлівым. Нават калі чытаць кнігу дома, скажам, седзячы ў фатэлі ў святле сціплай лямпы, душою выпраўляешся ў падарожжа «па сцішэлай ад дзённага хвалявання вадзе», блукаеш у «вечаровых лясных прыцемках», каб потым адпачыць пад траскучыя спевы цыкад.

Адзін з галоўных сакрэтаў прыцягальнасці прозы Анатоля Бутэвіча ў тым, што героі яго нам зразумелыя і блізкія і на іх месцы мог апынуцца любы чытач.

Вось хлопец з дзяўчынай гуляюць па чарнаморскім пляжы: узяліся за рукі, адчуваюць цяпло ў далонях і не звяртаюць увагі на іншых — ім хораша і ўтульна. Яны маўчаць — размову вядуць вочы і дотыкі. У іншым апавяданні наіўная пяшчота маладых саступае мудрасці старога і адзінокага чалавека. «Не важна, што наверсе, важна, што ўнутры...» — разважае дзядзька Аслан, які, нягледзячы на хваробы, цяжкую працу і гады, застаўся ў душы сямнаццацігадовым юнаком, але шчасце страціў калісьці з-за глупства. У падобным становішчы апынаецца і жанчына, якая ў ваенны час пакахала нямецкага хлопца, але той праз іх каханне гіне на шыбеніцы.

Стыль пісьменніка адметны, насычаны: тэксты багатыя на метафары, расквечаныя шматзначнымі, часам сімвалічнымі вобразамі.

Кніга рэкамендуецца ўсім, але асабліва ж тым, хто разгублены. Апавяданні пакідаюць у душы адчуванне, што ты не адзін у свеце, праблемы здаюцца не такімі ўжо безвыходнымі.

Цалкам натуральна, што ўсе апавяданні адрозныя. Важна іншае: кожны чытач абавязкова знойдзе «тую самую гісторыю», якая зачэпіць, — яна і была патрэбна ў гэты момант. Насамрэч, творы, што склалі зборнік, вельмі розныя. Ёсць нават эксперыментальнае апавяданне «Пагавэндка пра пакаранне прагавітага Пракопа помслівым Пліпам». Як вы здагадаліся, усе словы ў ім пачынаюцца на літару «п». Твор гэты не ўпісваецца арганічна ў кантэкст, але як апошні акорд надае зборніку даволі адметнае гучанне.

Найбольш уразіла апавяданне «Бяскрылы анёл, або Непачутая скарга ненароджанага дзіцяці», якое, без перабольшання, трэба чытаць усім маладым дзяўчынам. Тонкая, далікатная праўда, загорнутая ў філасофскія разважанні, кранае да слёз. Чуллівы аповед вядзецца ад асобы малога, нават зародка ва ўлонні жанчыны. Ён яшчэ не з'явіўся на свет, але горача імкнецца жыць, жадае хутчэй усміхнуцца сонцу і нарэшце ўбачыць маму, зазірнуць у яе вочы. «Жывы камячок», «няхай сабе пакуль нябачны, не выяўлены, аднак жа — чалавек», хоча «разбурыць абалонку невядомасці і пераканаць людзей у справядлівасці свайго існавання». Толькі марам яго не наканавана спраўдзіцца — атручанае незразумелай злосцю маці, абыякавасцю бацькі дзіця гіне, так і не паспеўшы нарадзіцца...

«Пацалунак на фоне гор» — кніга, прасякнутая светлай хрысціянскай мудрасцю. Яна вучыць часцей азірацца наўкол і жыць не толькі дзеля сябе. «Шчаслівы той, хто здольны аддаваць і захоўваць», — чытаецца думка паміж радкоў. Банальна? Не, хутчэй афарыстычна.

**Марыя ВОЙЦІК**

*Парады пачаткоўца*



Ігар ПАЛЯКОЎ

# Аўтар. Гісторыя

*У папярэдняй серыі: аўтар-пачатковец выйшаў на след беларускіх выдавецтваў. Разведаў таемныя сцежкі і... гэты «партызанскі край прыняў яго». Цяпер ён пісьменнік, які мае апублікаваную кнігу. А можа, усяго толькі палонны выдавецкага кантракта?*

Усіх цікавіць прамежак ад электроннага ліста на адрас выдавецтва да прэзентацыі гатовага рамана. Я расклаў яго на тры пункты, якія, мне здаецца, выклікаюць цікавасць выдавецтва ў будучым аўтары.

А. «Імя», альбо медыйная імя. Гэта самы просты і, думаецца, тактычна самы выгадны і лёгкі для выдавецтва кліент. Выпадак, калі ўжо само імя аўтара працуе на прасоўванне кнігі. У гэтую ж катэгорыю можна аднесці і пісьменнікаў, якія паспяхова знаходзяцца на рынку некалькі гадоў. Іх імёны ўжо вядомыя, кнігі прадаюцца. Брэнд ёсць брэнд.

Б. «Чалавек з гісторыяй». Гэты тэрмін я пачуў ад выдаўца. Кніга — прадукт, але ўсё ж за ёй стаіць аўтар, асоба. А чытач хоча ідэнтыфікаваць сябе не толькі з сюжэтам і яго героямі, яму можа быць цікавы і бэкграўнд — гісторыя стварэння і першнаперш стваральнік як прыцягальная асоба. Па сутнасці, кніга і аўтар могуць дапаўняць адзін аднаго, дапамагаць в ўзаемным прасоўванні. І вось тут яшчэ раз нагадаю партызанскую таямніцу: выдавецтвы ўважліва сочаць за сваім магчымым палонным.

Для «чалавека з гісторыяй» зусім неабавязкова быць героем-падпольшчыкам. Дастаткова быць актыўным чалавекам. Сацыяльна актыўным. Прывяду некалькі прыкладаў.

Блогі і сацыяльныя сеткі — лепшая пляцоўка паказаць сябе і свае здольнасці ў сферы літар. Асабліва калі твой сецевы дзённік актыўна чытаюць. Блог — гэта самы лепшы і бачны асяродак, дзе можна праявіць свой пісьменніцкі талент. Дарэчы, ёсць нямала прыкладаў, калі блогеры, дзякуючы сеткавай папулярнасці, станавіліся пісьменнікамі offline. Добры адваротны прыклад — калі пісьменнік пачынае весці інтэрнэт-дзённік, каб прасоўваць сябе, свае творы і мець зваротную сувязь з чытачамі. Да таго ж, блогі развіваюць уменне коратка фармуляваць думкі, «вастрыць» мову — каб вас не кінулі чытаць праз абзац. Гэта выдатны пісьменніцкі трэнінг.

Плённым будзе і ўдзел у цікавых праектах. Дабрачыннасць, сацыяльныя, творчыя мерапрыемствы — гэта ваша грамадскае хобі. Напрыклад, вы прымалі ўдзел у здымках кіно ці гралі ў аматарскіх спектаклях, арганізоўвалі выстаўкі палявых кветак, уласных вышыванак і пра вас напісала газета. Гэта значыць, вы — «чалавек з гісторыяй».

В. Конкурсы. Распавяду на ўласным прыкладзе. У год, калі я перамог на конкурсе «Першы раздзел», вясною напісаў свайму сябру па сацыяльнай сетцы, выдаўцу з Пецярбурга. Ён прапрасіў некалькі старонак апавесці і, да майго здзіўлення, адзначыў, што ўрывак цалкам нядрэнны. Але... натуральна наўрад ці хто-небудзь захоча мець справу з чалавекам з ніадкуль. Сябар тут жа параіў мне паўдзельнічаць у літаратурных конкурсах. Раней я пра гэта і не думаў!

Раскрытыя сакрэты — гэта ўсяго толькі прынада, якая ляжыць на паверхні. У любым выпадку, каб стаць чалавекам, які здольны напісаць сваю сапраўдную гісторыю, трэба стаць асобай са сваёй гісторыяй. Поспехаў!

*Аблічча*

# Сцежка з Гудзевічаў

«Чаму ж мне не пець, чаму ж не гудзець…» — чулася мне гэтая песня і ў Гудзевічах. Гудба — музыка. Гудасамі называлі нашых продкаў. Гуд Нядзведскі — пажылы полацкі плытагон, гадаваў малога Жаныня, будучага Яніса Райніса.

А ў траўні 1984 г. у Гудзевічах было многа гасцей з Мінска, з Гродна. Тут у сярэдняй школе яшчэ ў 1965 г. настаўнік беларускай мовы і літаратуры Алесь Мікалаевіч Белакоз заснаваў літаратурна-краязнаўчы музей. Ён месціўся ў адным пакоі. І калі ў 1981 г. пабудавалі новую двухпавярховую школу, Алесь Мікалаевіч пастараўся, каб пад музей, які ўзбагаціўся новымі артэфактамі, аддалі будынак старой школы. І вось мы прыехалі адсвяткаваць дзень узнаўлення музея. І калідор, і чатыры цудоўна аздобленыя залы запоўнены аўтэнтычнымі экспанатамі. Ніводнай копіі! Вы калі-небудзь бачылі беларускамоўны глобус планеты Зямля? Верагодна, толькі ў Гудзевічах! І сам музей у Гудзевічах — нібыта глобус Беларусі. А ў двары нас падвялі да этнаграфічнага помніка — сялянскай хаты XVIII стагоддзя. Пільна ўгледзься я ў гаспадарчае начынне, пазнаючы прылады з бацькоўскага хутара паўночна-заходняй Беларусі. Захаваць скарбы народнага, яшчэ, скажам так, дапатопнага побыту — высілак незвычайны (ці дакраналіся вы да каменнага мыцельніка?).

Дзівілі нас і гудзьбістыя песні дзяўчат у народных строях, і вытканыя паводле старажытных узораў палоскі, з якіх рыхтавалі асучасненыя падарункі, — гальштукі.

Многія госці на свяце музейнага адраджэння не былі шараговымі наведнікамі. Сярод тагачасных пісьменнікаў, мастакоў, людзей іншых творчых прафесій аб'явілася грамада ахвярадаўцаў-дабрадзеяў. З аповедаў А. Белакоза, з уласнага досведу ведаю, што спрыялі станаўленню музея ў Гудзевічах С. Александровіч, Я. Брыль, В. Вітка, Л. Геніюш, У. Караткевіч, А. Мальдзіс, І. Мележ, П. Панчанка, М. Прашковіч, А. Пяткевіч, Ф. Янкоўскі… Падарункі ў музей прыходзілі ад Зоські Верас з-пад Вільні, ад М. Забэйды-Суміцкага з Прагі, ад В. Целеша з Рыгі, ад многіх мастакоў з Мінска і іншых мясцін Беларусі.

Ад А. Белакоза дазнаўся: каб выйшаў паштовы канверт з малюнкам той самай хаты з надпісам «Вёска Гудзевічы Мастоўскага раёна Гродзенскай вобласці. Музей этнаграфіі», пастараліся мастак Алесь Ліпень і напорысты пісьменнік «пры пасадзе» Аляксей Карпюк.

І сёння не стыне слава Гудзевіцкага дзяржаўнага (з 1990 г.) літаратурна-краязнаўчага музея. Яго называюць яшчэ і гістарычным. Тут захоўваецца, да прыкладу, грамата 1539 г., і, паводле першага дакументальнага ўспаміну, сёлета можна адзначаць 475-годдзе Гудзевічаў.

А я адзначаю незабыўнае 30-годдзе пабыўкі там пад апякунствам А. Белакоза. Гэта ён трыццаць гадоў стаяў атлантам пад калючай брамай сваёй святыні, дзе ў 11 залах было выстаўлена 12 тысяч экспанатаў. Дзве тысячы падарункавых кніг — у бібліятэцы музея. Ды і тэматыку стэндаў адразу не пералічыш: літаратурнае краязнаўства, этнаграфія, народная медыцына, жывапіс, графіка, скульптура…

11 верасня заслужаны настаўнік, заслужаны работнік культуры Алесь Белакоз адзначыў 86-годдзе. Нябёсы і досвед народнай медыцыны мацуюць яго шлях. А найперш настрой душы, выказаны ім такімі словамі: «Мой дэвіз праз усё жыццё адзін: усё для Беларусі!».

І яшчэ два незгасальныя праменьчыкі берагу я ў сваім доме: гэта два вытканыя ў Гудзевічах гальштукі. А вось і ліст ад Алеся Мікалаевіча на афіцыйным бланку музея ад 24 снежня 1984 г., дзе выказаны віншаванні з Новым годам і пажаданні «…плёну ў працы для роднай Беларусі». А далей словы пра гальштук, які пачалі ткаць яшчэ да майго 40-годдзя, але няскончаную працу школьніцы Аліны давяла да ладу кіраўнік гуртка народнага ткацтва Вера Белакоз.

Чытаю далей: «Гальштук ткалі Вам пад колер вераску. Хай гэты сціплы падарунак заўсёды прыпамінае Вам беларускую вёску, верасную сцяжынку і родны парог».

Пры нагодзе я асцярожна пераварочваю на кашулі гальштук, каб было відаць дату нараджэння і маё вышытае прозвішча, і прамаўляю, што гэта мой нагрудны пашпарт з гудзевіцкай шэнгенскай візай…

**Сяргей ПАНІЗНІК**



*Фота Сяргея Панізніка*

*Заснавальнік літаратурна-краязнаўчага музея пры Гудзевіцкай сярэдняй школе настаўнік Алесь Белакоз сустракае гасцей. Травень 1984 г.*

# «Алімпіядная» кніга

Памятаю, як на алімпіядных зборах у Віцебску мы ўсёй камандай склалі «Спіс пытанняў да У. І. Куліковіча». Праца была доўгаю і натхнёнаю: алімпіёнікі стаміліся пытацца, выкладчык стаміўся адказваць, але не саступаў ніхто. Гэты дзень узгадаўся ў сувязі з выхадам кнігі, якую выдала сёлета выдавецтва «Аверсэв», — «Алімпіяды па беларускай мове і літаратуры: Заданні да комплекснай работы. Водгук на мастацкі твор. Вуснае выказванне» Уладзіміра Куліковіча.




Новая «алімпіядная» кніга дапамагае пратэставаць сябе і ацаніць, адпавядае ці не назапашаная мова- і літаратуразнаўчая база ведаў тыповым алімпіядным заданням. Кніга У. Куліковіча дае разуменне спецыфікі ўсіх трох алімпіядных конкурсаў — комплекснай работы, водгуку, вуснага выказвання. Падрыхтоўка набывае больш акрэслены характар, што, натуральна, павышае эфектыўнасць працы ўласна на алімпіядзе.

У раздзеле «Заданні да комплекснай работы» змешчаныя рэальныя конкурсныя заданні абласнога і заключнага этапаў алімпіяды, матэрыял за дзесяць гадоў, з 2002 да 2013. Вялікі плюс раздзела ў яго структуры: заданні разведзеныя згодна са сферамі мовазнаўства: «Фанетыка. Графіка», «Арфаэпія. Акцэнталогія. Складападзел. Арфаграфія», «Марфеміка. Словаўтварэнне», «Лексікалогія. Лексікаграфія», «Фразеалогія. Фразеаграфія», «Марфалогія», «Сінтаксіс. Пунктуацыя», што арганізуе працу «алімпіёніка», пазбаўляе стыхійнасці ў аваладванні матэрыялам. У асобны падраздзел вылучаная тэма «Тэкст. Культура мовы. Камунікацыя», якая таксама ўваходзіць у комплексную работу.

«Заданні па літаратуры» пераконваюць, што аднымі «праграмнымі» падручнікамі не абыдзешся. Вядома, адсотак літаратурных задач меншы за адсотак задач моўных, тым не менш на алімпіядзе важны кожны бал, нават кожная сотая. Часам менавіта апошняя частка комплекснай работы дазваляла дасягнуць жаданага выніку. У гэтым падраздзеле — асобы, імёны, дэталі жыццяпісаў, тэксты і тэрміналогія. Заданняў няшмат, але прыкладныя кірункі, у якіх трэба працаваць, яны акрэсліваюць. Грунтоўна падрыхтаваны «Даведкі» пакінуць мінімум нагодаў для складання новага «Спіса пытанняў».

Дзве трэція аб'ёму заданняў у кнізе складаюць раздзелы «Водгук на мастацкі твор» і «Конкурс "Вуснае выказванне"», што таксама павышае вартасць выдання: звестак пра тое, як трэба працаваць з тэкстамі на алімпіядзе па нашай мове і літаратуры, няшмат. Тут жа знойдзем і крытэрыі ацэнкі нашых будучых прац, і тэорыю, і самі творы.

У раздзеле «Водгук…» алімпіяднік рухаецца ад менш да больш аб'ёмных і/або складаных заданняў, паступова заглыбляецца ў тэму, пачынае лепш разумець спецыфіку конкурсу. Удала падабраны тэарэтычны матэрыял: «Мастацкія магчымасці слова», «Час і прастора ў мастацкім творы», «Кампазіцыя», «Віды і жанры лірыкі», «Тэма, праблема, ідэя мастацкага твора», «Жанравая спецыфіка водгуку» ды інш. Даследаваць віды лірыкі (грамадзянскую, філасофскую, інтымную і пейзажную) аўтар кнігі прапануе праз стварэнне ўласных рэфератаў — з асабістымі, а значыць, больш каштоўнымі адкрыццямі тэм, вобразаў і ідэй паэзіі. Праз увесь раздзел выразна прасочваецца скіраванасць на авалоданне літаратуразнаўчай тэрміналогіяй. Кожны мэтанакіраваны алімпіяднік убачыць каштоўнасць у заданні з прыкладнай схемай аналізу лірычнага твора. Праз вылучэнне чатырох блокаў (магчымыя кантэксты разгляду твора; інтэрпрэтацыя зместу; аналіз выяўленчых сродкаў; выяўленне асабістых уражанняў) акрэсліваюцца этапы працы над тэкстам. Кожны з блокаў фарміруецца шэрагам пазіцый, якія арганізуюць напісанне творчай працы. Такога кшталту схемы выратоўваюць, калі ад хваляванпня і абвостранага пачуцця адказнасці раптам забываецца ўсё, што вывучалася доўгімі начамі; схема арганізуе, паступова супакойвае — і тэкст пачынае сам сябе ствараць.

Пададзеныя ў кнізе творы для водгукаў і самі водгукі даюць магчымасць «памацаць» сапраўдныя конкурсныя працы: ацаніць, параўнаць, адзначыць для сябе ўдалыя моманты, павучыцца на чужых памылках. Матэрыялы гэтага раздзела могуць быць выкарыстаныя і пры стварэнні вусных выказванняў. Апошняму конкурсу алімпіяды таксама аддадзеная належная ўвага. Раздзел распачынаецца «Агульнымі рэкамендацыямі па падрыхтоўцы да конкурсу "Вуснае выказванне"». Апісанне шасці этапаў падрыхтоўкі да выступлення на алімпіядзе настройвае на грунтоўную працу, бо выказвацца не так лёгка, як можа падацца спачатку. Скіраваныя рэкамендацыі перадусім на настаўнікаў. «Фактычны матэрыял для падрыхтоўкі да конкурсу» змяшчае тэксты выказванняў на розныя тэмы: агульнафіласофскія, лінгвістычныя, літаратурныя.

Як «алімпіёнік са стажам» магу сказаць, што сабраныя Уладзімірам Іванавічам пад адной вокладкаю матэрыялы дапамогуць актуалізаваць ужо атрыманыя веды і здабыць новыя, а таксама зразумець, над чым яшчэ трэба шчыраваць ды шчыраваць. Карысная кніга будзе і для тых, хто папросту цікавіцца моваю — узбагачэнне скарбонкі ведаў гарантавана.

**Настасся КАЧАН,**
**магістрантка кафедры рэдакцыйна-выдавецкіх тэхналогій БДТУ**

# Сяброўства новыя старонкі



Фота Кастуся Дробава

Заканчэнне. Пачатак на стар. 2.

У якасці пацверджання Мікалай Іванавіч прывёў канкрэтныя лічбы. Так, сёння ў складзе СПБ — больш як 650 сяброў. Яны праводзяць ад 15 да 20 тысяч сустрэч з чытачамі на год. Саюз пісьменнікаў Беларусі мае дамовы аб супрацоўніцтве з 29 замежнымі пісьменніцкімі арганізацыямі. Дзякуючы працы ў гэтым кірунку творы нашых аўтараў перакладзеныя на 17 моў свету. Важны акцэнт працы — падтрымка маладых. Адмыслова для іх ладзяцца конкурсы, самым лепшым аўтарам выплачваюцца стыпендыі, СПБ знаходзіць магчымасці выдання кніг аўтараў-пачаткоўцаў.

Расійскі журналіст, пісьменнік, выдавец, грамадскі дзеяч Георгій Прахін прадоўжыў разважанне пра ролю пісьменніка ў грамадстве:

— Перад сур'ёзным аўтарам сёння стаяць дзве важныя задачы. Гэта служэнне не інстынктам, але ідэалам. У тым ліку — ідэалу міру, добрасуседства. Мы мусім шукаць тое, што нас аб'ядноўвае, а не адрознівае. У той жа час трэба паказваць, чаго дасягнулі нацыянальныя літаратуры, важна служыць роднаму слову, спрыяць таму, каб яно не нівеліравалася мовамі міжнародных зносін.

— Большай за літаратуру можа быць толькі памяць народа, памяць традыцый. Сто гадоў таму пачалася Першая сусветная вайна, якая разбурыла звыклы свет, змяніла лад жыцця чалавека. На жаль, многія гэтага не заўважылі. Але творца — чалавек, які павінен адказваць за становішча ў грамадстве, калі гэтага не будзе, цывілізацыя схіліцца да свайго заходу, — зазначыў пісьменнік, старшыня Федэральнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі «Беларусы Расіі» Валерый Казакоў. — Сёння назіраецца рэнесанс Усходу, аднак ён адбываецца ўнутры кожнай з культур. На жаль, гэтыя аўтары выпалі з поля рускай мовы, яны хутчэй перакладаюцца на англійскую. Нас шмат раздзяляе, але ёсць талент пісьменніка, вакол якога мы можам аб'яднацца.

Паэт, перакладчык, загадчык выдавецкага сектара Міністэрства культуры і турызму Азербайджана Чынгіз Аліаглу, які падчас «круглага стала» быў узнагароджаны Падзякай Міністра інфармацыі Беларусі за значны асабісты ўклад у прапаганду беларускай літаратуры ў СНД, скіраваў разважанні ў бок вызначэння ролі пісьменніка ў грамадстве, асноўных жыццёвых і творчых прыярытэтаў аўтараў:

— Мы часта кажам пра абавязкі пісьменніка, але мне слова «павінен» не заўсёды падабаецца. Ёсць прызначэнне лёсу і таленту, які чалавек мусіць выяўляць. Але можа ўзнікнуць і іншае пытанне: а што грамадства павінна творцу? Я лічу, што пісьменнік мае абавязкі перадусім перад сваім сумленнем і чалавечай годнасцю, ён мусіць адказна ставіцца да свайго паклікання. Нявартa ганарыцца талентам, гэта не заслуга асобы — зямля і кроў, якую нацыя мае ў сваіх жылах, дае табе прызначэнне. Вартасць асобы заключаецца ў тым, з якой адказнасцю ты ставішся да таленту, ці жывеш па яго законах.

Празаік, галоўны рэдактар часопіса «Роман-газета» Юрый Казлоў на прыкладзе выдання, што ён узначальвае, паказаў, якія тэндэнцыі назіраюцца ў літаратурах. Калі раней тыраж «Роман-газеты» дасягаў чатырох мільёнаў асобнікаў, то цяпер ён зменшыўся ўсяго да 4 тысяч.



Казахская пісьменніца Райхан Мажэнкызы ўручае кнігі дырэктару Нацыянальнай бібліятэкі Раману Матульскаму.

Па меркаванні пісьменніка, гэта можа быць звязана з рэзкім скарачэннем перакладчыцкай школы. Атрымаць якасна перакладзены твор нацыянальнай літаратуры на рускую мову сёння вельмі складана. Таму варта адраджаць школу перакладу, аднавіць перакладчыцкі факультэт Літаратурнага інстытута, які калісьці быў закрыты. Больш за тое, выступоўца зазначыў, што сёння не існуе працэсу крытычнага асэнсавання кожнага новага сур'ёзнага твора літаратуры. Яго амаль цалкам падмяніла рэклама. Аднак ён лічыць справядлівай думку пра тое, што цяпер назіраецца зварот да традыцыйных каштоўнасцей. Паважлівае і правільнае стаўленне да іх мусіць стаць грунтам для новай садружнасці ў галіне пісьменніцкай працы.

Пра беларускія нумары часопіса «Наш современник» распавёў галоўны рэдактар гэтага выдання Аляксандр Казінцаў:

— Мы штогод выпускаем нумар, прысвечаны літаратуры і літаратурнаму жыццю Беларусі. Ён выходзіць у ліпені, калі Беларусь адзначае Дзень Незалежнасці. За час існавання гэтага праекта мы надрукавалі тэксты больш як сотні пісьменнікаў, грамадскіх дзеячаў. Асабліва ганарымся тым, што адмыслова для нашага часопіса артыкул напісаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. У новым нумары, што выйшаў сёлета, надрукаваны творы 25 аўтараў. І гэта не проста імёны, спіс — гэта памкненні, адкрыцці. Наш часопіс звяртае асаблівую ўвагу на творчасць маладых: без падтрымкі 20-гадовым творцам сёння надзвычай складана прабіцца да чытача.

— Павага да кнігі адчуваецца ў сучасным Таджыкістане. Калі кнігавыданне аказваецца ў цэнтры ўвагі Прэзідэнта і ўрада, то развіццё гэтай галіны адразу ўздымаецца на новы ўзровень, — распавёў сустаршыня Форуму перакладчыкаў і выдаўцоў краін СНД і Балтыі Ато Хамдам. — У нашай краіне сродкі на выданне кніг выдзяляюцца са спецыяльнага фонду Прэзідэнта краіны. Мы шмат увагі надаём перакладам літаратурных тэкстаў, сочым за развіццём мастацтва слова ў розных краінах. Шэсць гадоў таму я ўпершыню наведаў Мінск пасля распаду СССР і прапанаваў беларускім пісьменнікам наладзіць літаратурныя адносіны, скласці анталогію сучасных беларускіх твораў у перакладзе на таджыкскую мову. Цягам наступных гадоў мы рэалізавалі шмат паспяховых праектаў.

Думаецца, міжнароднае супрацоўніцтва ў сферы літаратуры дасць вялікія перспектывы: выйграюць усе народы, павысіцца інтэлектуальны ўзровень нацый. Вельмі важна рыхтаваць маладых перакладчыкаў, якія перакладалі б творы адразу з арыгінала. Падобныя думкі выказваліся ўдзельнікамі «круглага стала». Такім чынам, нас чакае яшчэ шмат новых яркіх праектаў, адкрыццяў, захапляльных сустрэч. Прынамсі, адна адбудзецца ўжо на пачатку наступнага года, падчас Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# «Таркі-Тау» чакае «Сугучча сэрцаў»

**Дагестанскі мастацкі свет — гэта вясёлка з мноства нацыянальных культур. Каб горцы разумелі адзін аднаго не толькі сэрцам, але і розумам, Марат Гаджыеў, які выдае ў Махачкале газету «Горцы», стварыў Каўказскі дом перакладу. У літаратара і выдаўца ёсць яшчэ адзін паспяховы праект — кніжная выстаўка-кірмаш у Махачкале. Дагестанскія кніжнікі запрашаюць на яе і беларускіх выдаўцоў. Падстаў для гэтага хапае. У айчынных літаратурна-мастацкіх часопісах Беларусі на рускай і беларускай мовах выходзяць вершы аварскіх, лакскіх, даргінскіх, лезгінскіх, кумыцкіх паэтаў. Марат Гаджыеў расказаў, чаму беларускія перакладчыкі сёння працуюць над анталогіяй сучаснай паэзіі народаў Дагестана.**

— Наш край — гэта розныя народы, вялікае багацце. Мы ўвесь час чакалі і працягваем верыць, што менавіта нацыянальнае шматаблічча штурхае нас на высокую літаратурную арбіту. Сёння ў Махачкале развіваюцца надзвычай цікавыя працэсы. І гэта на фоне агульнага спаду цікаўнасці да кнігі, некаторай каўказафобіі ў Расіі і, што досыць сумна, на фоне выцяснення рускай мовы з Каўказа.

Вось такі круты «замес». Але цяжкія сітуацыі толькі загартоўваюць. У нашых далёкіх паселішчах жывуць адвечныя чысціня і сіла, энтузіясты імкнуцца зафіксаваць музыку, танцы, словы, якія перадаюцца з пакалення ў пакаленне — і не вычэрпваюцца. Усе знаходкі рупліўцы не хаваюць у музей ці ў прыватныя калекцыі, а выкладваюць у інтэрнэт. За тры дзясяткі гадоў маўчання атрымаўся сапраўдны прарыў!

Так, часам бывае цяжка прасачыць за ўсімі інфармацыйнымі патокамі, але, безумоўна, знутры іх відаць будучыя арыенціры новай сучаснай нацыянальнай культуры і літаратуры. Сёння неабходна даць штуршок нацыянальным мовам, якія спыніліся ў сваім развіцці ў 1950-я гадах. У гутарковую мову за савецкім часам увайшлі дзясяткі слоў з рускай мовы, а цяпер — з арабскай, англійскай. У былыя часіны такое адбывалася не так імгненна.

**— І ўсё ж ці ёсць сярод літаратур Дагестана лідар?**

— Відаць, няправільна ацэньваць літаратурныя творы ці пісьменнікаў таго ці іншага народа ў колькасным вызначэнні. Але скажу прама: толькі тыя, хто адмовіцца ад перыферыйнасці ў літаратурнай свядомасці, змогуць рухацца наперад.

Безумоўна, сёння ўнутры нацыянальных літаратур адбываюцца розныя працэсы — і яны не тоесныя. Адзінае, што іх аб'ядноўвае, — жаданне не растварыцца, захаваць сваю мову. Але гэта толькі частка праблемы. Бо, вырашаючы ўтылітарную задачу, нельга забывацца на якасць літаратуры, на вызначальную сілу слова. Для развіцця патрэбны магутны штуршок, параўнальны з тым, што адбываўся ў літаратуры пасля Вялікай Айчыннай вайны, якая вызначыла жыццё і творчы пошук некалькіх пакаленняў пісьменнікаў.

**— Ці перакладаюць адзін аднаго паэты, празаікі розных народаў Дагестана?**

— Пераклады — любімая тэма ў нашым літаратурным жыцці. Але часта іх якасць прымушае чакаць лепшага. Вялікія перакладчыкі савецкага перыяду жывуць у кнігах і ўспамінах. Стварэнне перакладчыцкай школы — гучыць рэфрэнам на ўсіх літаратурных сходах. Часам, узяўшы ў рукі сучасную кнігу, думаеш: лепей бы не перакладалі…

**— Рускія перакладчыкі цікавяцца літаратурным Дагестанам?**

— Мы самі вінаватыя, што на нас не звяртаюць тае ўвагі, якой вартая наша літаратура. Кожны з нашых пісьменнікаў, як пасля караблекрушэння, спрабуе выратавацца ў адзіночку, таму пра сур'ёзную працу з перакладчыкамі і не думаюць.

Год таму адчынілі грамадскую некамерцыйную арганізацыю «Каўказскі дом перакладаў». Працуе ён у двух кірунках. Першы — стварэнне перакладчыцкага асяродку на Каўказе. У нас няма мэты перастварыць толькі аварскую ці кумыцкую паэзію — усё павінна быць шмат шырэй. Пераствараць сёння патрэбна не толькі з нацыянальных моў на рускую, але і, скажам, на нямецкую ці кітайскую.

Каб гэта было магчыма, я планую пабудаваць ці набыць дом у гарах, дзе змог бы працаваць кітайскі ці беларускі перакладчык. Для спецыялістаў гэта яшчэ і магчымасць падарожнічаць. Падобнае ў Еўропе практыкуюць даўно. Праект доўгатэрміновы, патрабуе карпатлівай працы, але дае магчымасць «пад ценем» ужо вядомых перакладчыкаў выгадаваць маладых спецыялістаў. Гэта паспрыяе адкрыццю перакладчыцкага аддзялення на філалагічным факультэце Дагестанскага дзяржаўнага ўніверсітэта.

**— Вы заснавалі кніжную выстаўку ў Махачкале…**

— Усё пачалося з каўказскай літаратурнай газеты. Я ўклаў у яе шмат сіл і душы, але яна па розных прычынах не даходзіць да чытача. Каб папулярызаваць «Горцев», тры гады таму я прыдумаў такі кніжны форум у Махачкале і назваў яго «Таркі-Тау». Гэта гара, у падножжы якой знаходзіцца сталіца Дагестана.

Кніжны кірмаш «Таркі-Тау» арыентуецца на лепшы айчынны і замежны досвед. Наш форум прадстаўляе рэальны механізм узаемадзеяння ўсіх сегментаў літаратурнага жыцця, уключаючы выданне, распаўсюджванне кніг, аўтарскія правы і г. д. На «Таркі-Тау» праходзяць экспертныя саветы і літаратурныя дыспуты, перфомансы і творчыя сустрэчы з вядомымі пісьменнікамі, мастакамі, на заключным этапе — прысуджэнне прэміі лепшаму выданню. Але галоўнае — гэта сустрэчы з чытачамі.

Сёлета кірмаш пройдзе з 9 па 12 кастрычніка. Запрашаем выдавецтвы Беларусі да супрацоўніцтва. Галоўнае для нашага кніжнага кірмашу «Таркі-Тау» не камерцыйная выгада, а гуманітарная місія. Мы некалькі разоў спрабавалі запрасіць Святлану Алексіевіч, але пакуль не атрымалася. Сёлета спадзяёмся на ўдзел у нашым кніжным кірмашы рэдакцый беларускіх часопісаў «Нёман», «Полымя», Выдавецкага дома «Звязда». Ведаю, што беларускія калегі прэзентуюць у Махачкале шматтомную серыю кніг «Сугучча сэрцаў», у адным з тамоў якой знайшлося месца для літаратуры народаў Каўказа.

**— Ведучы размову пра Дагестан, першым мы згадваем Расула Гамзатава. Наколькі сёння ён ушаноўваецца як з'ява аварскай і ўвогуле каўказскай, сусветнай паэзіі?**

— У мінулым годзе мы адзначылі чарговы юбілей народнага паэта Дагестана — шырока і маштабна. Расул Гамзатаў быў самым вядомым паэтам за межамі Каўказа да 1990-х гадоў. Тады быў усплёск цікавасці да паэзіі, ды і шматтысячныя тыражы зрабілі сваю справу. Сёння спонсарскай дапамогі хапае на друк некалькіх соцень экзэмпляраў кніг паэтаў, якія маглі б славіць аварскае ці іншае наша слова не толькі на Каўказе, але і за яго межамі. Але час цяпер іншы. У лёсе Расула Гамзатава некалі супала ўсё: талент, запатрабаванасць, час і месца. Цяжка сабе ўявіць, што сёння нехта ўздымецца на падобную вышыню.

**— Дарэчы, а колькі моў сучаснага Дагестана маюць пісьменства? Ці ва ўсіх народаў аднолькава актыўна развіваюцца нацыянальныя проза і паэзія?**

— Сёння ў Дагестане 14 пісьменных моў: аварская, агульская, азербайджанская, даргінская, кумыкская, лакская, лезгінская, руская, табасаранская, тацкая, нагайская, рутульская, цахурская і чачэнская. Калі ўлічыць, што пісьменнасць агульскай, рутульскай і цахурскай моў афармілася параўнальна нядаўна, літаральна некалькі гадоў таму, то вы зразумееце, якія складаныя задачы стаяць перад вучонымі і літаратарамі розных нацыянальных груп. Але гэта не значыць, што ў народаў, якія не маюць пісьменства, няма літаратурнага слова. Ёсць вусная творчасць, дарэвалюцыйнае арабамоўнае пісьменства, якое дазваляе творчым людзям раскрыць свае магчымасці.

Але ўзнікненне рускага пісьменства, асабліва ў першыя гады гэтага працэсу, дало моцны штуршок для літаратуры. Іншая справа — апошнее дзесяцігоддзе. Мяркую, пакуль на паверхні вельмі рэдка відаць сапраўдныя хвалі, але вось-вось мы ўбачым нешта вельмі істотнае. Нельга адназначна сказаць, будзе тыпова дагестанская проза ці паэзія або трэнд агульнасусветных уплываў… Ад літаратуры «маленькага чалавека» дагестанская літаратура ўпэўнена рухаецца ў бок зразумелых шырокамаштабных палатнішчаў і з'яў.

Гутарыў Кірыл ЛАДУЦЬКА

# Амерыканскія пісьменнікі з… Беларусі

**Наша зямля дала свету мноства таленавітых творцаў, якія, акрамя беларускага, прадстаўляюць шмат іншых этнасаў. Гэты факт ведаюць многія, але не ўсім вядома, што на тэрыторыі Злучаных Штатаў Амерыкі жыве значная колькасць беларускіх яўрэяў, іх дзяцей, унукаў і праўнукаў, якія сталі вядомымі амерыканскімі аўтарамі. Ім і не толькі ім прысвечаная новая кніга беларускага гісторыка Давіда Мельцэра, які ў ЗША з 1992 года. Выданне «Беларускія яўрэі ў Амерыцы» выйшла сёлета ў Нью-Ёрку.**

Кніга складаецца з 54 нарысаў. Адзін з самых цікавых — «Хлопчык з хасідскага мястэчка» — прысвечаны класіку сусветнай літаратуры ў жанры фантастыкі, выдатнаму вучонаму-біяхіміку Айзеку Азімаву. Ён нарадзіўся ў мястэчку Пятровічы Мсціслаўскага павета Магілёўскай губерні 2 студзеня 1920 года. Праз тры гады маленькі Ісак разам з сям'ёй пераехаў у Нью-Ёрк і жыў у Брукліне.

Праз пяць гадоў, у 1928 годзе, Азімавы атрымалі амерыканскае грамадзянства, але хлопчыка Ісака іміграцыйныя чыноўнікі перайменавалі ў Айзека. Велізарны прыродны талент дазволіў Айзеку ў 11 гадоў выдатна скончыць школу, у 15 — каледж у Брукліне, а ў 19 гадоў — Калумбійскі ўніверсітэт і атрымаць дыплом бакалаўра, а яшчэ праз два гады — вучоную ступень магістра хіміі. Пасля вайны Азімаў вярнуўся ў родны Калумбійскі ўніверсітэт, дзе абараніў доктарскую дысертацыю.

У 1958 годзе 38-гадовы Айзек Азімаў цалкам прысвячае сябе літаратурнай творчасці. Дарэчы, апавесць «Пакінутыя на Весце» ён апублікаваў ва ўзросце 19 гадоў. Імя пісьменніка ўвайшло ў амерыканскую літаратуру дзякуючы апавяданню «Прыход ночы». Надрукаванае ў часопісе «Дзіўная навуковая фантастыка», яно прынесла аўтару ўсеагульнае прызнанне. Больш за тое, у 1968 годзе Амерыканская асацыяцыя пісьменнікаў-фантастаў аб'явіла апавяданне Азімава лепшым за ўсю гісторыю існавання гэтага жанра.

Пяру Айзека Азімава належаць і гістарычныя работы: чатырохтомная «Гісторыя Паўночнай Амерыкі», даследаванні Старажытнай Грэцыі і Рыма, двухтомны «Даведнік па Біблії», а таксама тры гумарыстычныя кнігі. Вартасць нарыса Давіда Мельцэра заключаецца ў тым, што ён разглядае Айзека Азімава як чалавека разнастайных інтэлектуальных здольнасцей і энцыклапедычных ведаў, як неверагоднага працаголіка. У цэлым творчая спадчына пісьменніка налічвае 467 кніг.

На мяжы XIX — XX стагоддзяў у Злучаных Штатах Амерыкі стала бурна развівацца літаратура на мове ідыш. Узнікалі выдавецтвы, друкаваліся кнігі, выходзілі газеты і часопісы, працавалі тэатры. Амерыка аказалася спрыяльнай глебай для таленавітых людзей, якія эмігравалі з Беларусі і знайшлі другую радзіму. Гэты сюжэт лёг у аснову нарыса «Ля вытокаў ідышскай літаратуры ў ЗША». Тут падаюцца цікавыя звесткі пра жыццё і дзейнасць ураджэнца Магілёва, класіка яўрэйскай літаратуры на мове ідыш, драматурга, празаіка Давіда Пінскага, ураджэнца горада Нясвіжа, паспяховага раманіста Шомера (Нохем-Меера Шайкевіча), аднаго з заснавальнікаў амерыканскай літаратуры на мове ідыш, ураджэнца Віцебска Леона Кобрына, выдатнага літаратара з сусветным імем Аўрома Рэйзена з мястэчка Койданава, а таксама многіх іншых вядомых аўтараў.

Адзін з герояў гэтага нарыса — мінчанін Арон Рапапорт. Ён прыехаў у ЗША, калі яму споўнілася 13 гадоў. У Нью-Ёрку раскрыўся яго паэтычны талент. Першыя вершы А. Рапапорта былі апублікаваныя ў 1916 годзе ў газеце «Форвертс». Шырокая вядомасць прыйшла да паэта ў 1925 годзе, калі яму было ўжо 30 гадоў. Менавіта тады выйшаў з друку зборнік вершаў пра жахі вайны «Скрозь вогненныя сцены».

Яскравай з'явай у яўрэйскай літаратуры пачатку XX стагоддзя стала творчасць ураджэнца беларускага мястэчка Дзярэчын Гродзенскай губерні Шлойма Юдсана. Гэты паэт, жывучы ў Расіі, пісаў па-руску, а пасля прыезду ў ЗША, з 1906 года пачаў пісаць на ідыш. Ужо першая паэтычная кніга «Божае сэрца» прынесла шырокую вядомасць. Юдсан зарэкамендаваў сябе не толькі як таленавіты паэт, але і як умелы рэдактар, арыгінальны перакладчык твораў нямецкай літаратуры.

Дапытлівы чытач на старонках кнігі «Беларускія яўрэі ў Амерыцы» пазнаёміцца таксама з жыццём і творчасцю паэта, празаіка, журналіста і выдаўца Чарльза Ангофа з Мазыра. У 1922 годзе ў 20-гадовым узросце ён паспяхова скончыў адзін з самых прэстыжных універсітэтаў — Гарвардскі і стаў рэгулярна публікавацца ў яўрэйскім перыядычным друку. Ён апублікаваў больш як 20 кніг прозы, паэзіі і публіцыстыкі. З 1968 года і да смерці Чарльз Ангоф з'яўляўся прэзідэнтам Саюза амерыканскіх паэтаў.

Прафесар Давід Мельцэр здолеў стварыць кнігу, якая, безумоўна, паспрыяе большаму ўзаемаразуменню паміж беларускім і амерыканскім народамі.

Эмануіл ІОФЕ

# Торгу — новы Дракула?

**Калі паспрабаваць скласці рэйтынг самых папулярных персанажаў кніг і фільмаў жахаў, то вампір Дракула, безумоўна, зойме ў ім адно з першых месцаў. З моманту выхаду рамана Брэма Стокера прайшло ўжо больш як стагоддзе, а гэты вобраз хвалюе ўяўленне пісьменнікаў, сцэнарыстаў, рэжысёраў і, натуральна, чытачоў і гледачоў.**

Толькі цягам апошніх гадоў пабачыла свет не адна кніга, прысвечаная новай інтэрпрэтацыі старога вобраза. Так, Джэймс Рыз у рамане «Дасье Дракулы» вяртае чытача ў канец XIX стагоддзя, а пісьменніка Брэма Стокера робіць героем твора. У цэнтры расповеду — дзённік Стокера, напісаны ў час, калі знакаміты раман яшчэ не быў створаны. Крыс Хамфрыс у кнізе «Дракула. Апошняя споведзь» спрабуе наноў распавесці гісторыю жыцця румынскага князя Улада Цэпеша — прататыпа самага знакамітага вампіра. У рамане Цэпеш — зусім не жорсткі монстр, але няшчасны чалавек, які мусіць ахвяраваць жыццём адзінай каханай жанчыны.

Амерыканскі аўтар Джон Маркс крыху адыходзіць ад агульнага захаплення Дракулам. Тым не менш яго раман «Краіна іклаў і кіпцюроў», які ўпершыню быў апублікаваны ў 2007 годзе, змяшчае шмат алюзій на знакамітую кнігу Брэма Стокера. Гэты твор наміяраваўся на Сусветную прэмію фэнтэзі і стаў асновай для экранізацыі. У Беларусі выданне пабачыла свет пры падтрымцы ТАА «Харвест». Сёння мы звернем на яго больш пільную ўвагу.

Падзеі рамана Джона Маркса адбываюцца ў нашыя дні. Галоўная гераіня, Эвангеліна Харкер, — тэлевізійны журналіст. Па заданні рэдакцыі яна выпраўляецца ў падарожжа ва Усходнюю Еўропу, а менавіта ў Румынію. Дзяўчына мусіць сустрэцца з загадкавым інфарматарам і даведацца падрабязнасці злачыннай дзейнасці нейкага Торгу. Па дарозе з Бухарэста ў Трансільванію Ліна знаёміцца з былой хрысціянскай місіянеркай, якая раней працавала ў Афрыцы. Прыхільнікі творчасці Брэма Стокера тут адразу ж пазнаюць знаёмыя дэталі. Сваё прозвішча гераіня Маркса запазычыла ў стокераўскага адваката Джонатана Харкера, які таксама выпраўляецца ў Трансільванію па справах — афарміць нерухомасць у Лондане на імя графа Дракулы. Ужо ў Трансільваніі Джонатан чуе перасцярогі мясцовых жыхароў быць пільным з графам і атрымлівае ад старой жанчыны падарунак — нацельны крыжык. Для Англіі ў гады кіравання каралевы Вікторыі (калі і адбываюцца падзеі рамана) наступіў час вялікіх навуковых адкрыццяў: вынаходніцтва кінематографа і абмеркаванне новай сенсацыйнай тэорыі вучонага Дарвіна. Хіба могуць нейкія забабоны неадукаваных сялян-румынаў напалохаць адваката з Лондана?

Ліна Харкер таксама смела выпраўляецца ў падарожжа. Яна піша ў сваім дзённіку (дарэчы, Маркс эпісталярны метад таксама пазычае ў Стокера): «…нават даведаўшыся, што паеду




ў Трансільванію, і, начытаўшыся дастаткова, каб улавіць алюзію, нават пасля фільмаў і кніг (маецца на ўвазе «Дракула» Брэма Стокера, гэты раман Ліне параіў пачытаць калега)… я ніяк не прымервала іх падзеі на сябе. Кнігу я пачала і кінула па той жа прычыне, па якой ніколі не магла дачытаць пра эльфаў і гоблінаў». Тым не менш ужо на месцы жанчына не адмаўляецца ад падарунка місіянеркі — срэбнага крыжыка на тонкім ланцужку, а расповеды пра прывідаў не падаюцца ёй вар'яцтвам.

Ёсць у біяграфіях Харкераў яшчэ адна агульная рыса: перад


*Акцёр Бэла Лугошы ў ролі графа Дракулы. Кадр з фільма «Дракула» (1931).*

самым падарожжам абое святкуюць заручыны і імкнуцца хутчэй вярнуцца дадому, каб сустрэцца з каханымі. Месца асноўнага дзеяння раманаў таксама падобнае. Калі Дракула жыве ў старажытным замку і не дазваляе адвакату Харкеру свабодна гуляць па яго калідорах, бо за дзвярыма старажытных пакояў можа хавацца шмат жахаў і дзівосаў, то Ліна фактычна апынаецца вязнем старога закінутага і напаўзгарэлага гатэля ў гарах. Дарэчы, вельмі цікавая дэталь — старажытны ліфт у гатэлі: «замест адной кабіны, якая адкрываецца націсканнем кнопкі, гэты не меў дзвярэй, затое былі дзве кабіны і яны ўвесь час рухаліся. Злева кабіны апускаліся. Справа падымаліся. Рухаліся яны размерана, бязгучна, і ўнутр патрэбна было заскокваць, як толькі кабіна параўняецца з падлогай, інакш прапусціш свой шанс».

Сам механізм ліфта выглядае досыць фантастычна. Але гэта рэальная дэталь, і такія ліфты насамрэч існуюць. Аўтар піша, што яго спраектавалі для гатэля ў Трансільваніі майстры з Усходняй Германіі. Дарэчы, з дапамогай такога ж механізму і сёння можна перамяшчацца з паверха на паверх у будынку Міністэрства замежных спраў Германіі.

Але вернемся да рамана. Аказваецца, што і румын Торгу мае свае карысныя мэты ад зносінаў з Лінай. Як Дракула, які хацеў пранікнуць у шматлюдны Лондан у пошуках новых ахвяр, ён імкнецца ў ЗША, каб нібыта наладзіць там свой нелегальны бізнес. Магчымасць стаць героем самай папулярнай тэлепраграмы для яго толькі зачэпка, а наведванне і зняволенне журналісткі — шанц атрымаць легальнае запрашэнне для візы ў Штаты.

— Мне спатрэбіцца, каб вы засталіся са мной да ад'езду. У якасці кансультанта. Мне неабходны ваш электронны адрас, пароль і нумар рахунку, каб устанавіць кантакт паміж маім дзелавым цэнтрам і вашай установай. І апошняе. Прашу вас паслаць гэтую паштоўку на месца вашай працы, а вось гэтую — вашым блізкім.

Памятаеце момант у Стокера, калі Дракула просіць Харкера напісаць лісты на працу і каханай, якая затрымліваецца пагасцяваць у Трансільваніі? Дык вось падаецца, што зло за сто гадоў амаль не змянілася, не вынайшла новых метадаў і непапраўна састарэла ў сваіх дзеяннях. Аднак гэта не так. Бо на гэтым моманце падабенствы раманаў Стокера і Маркса амаль заканчваюцца. Гэта як скрыжаванне, пасля якога наш сучаснік ідзе сваёй дарогай, нібыта адштурхнуўшыся ад падказак папярэдніка і зрабіўшы яму рэверанс падзякі за дапамогу.

Так, самога Торгу мы не можам назваць вампірам у класічным выглядзе. У люстэрку ён выдатна адлюстроўваецца, сонечнага святла не баіцца, ды і іклаў вострых, каб піць кроў з шыі ахвяр, ён не мае. Зубы ў яго «зусім не вострыя, а, наадварот, круглыя і цёртыя, і адблісквалі сінім, нібыта згнілі ў шэраватых сківіцах, — згнілі, але не жадалі выпадаць». Дапамагаюць Торгу не вядзьмаркі, а загадкавыя браты Вуркулакі (невыпадкова іх прозвішча сугучнае з вурдаламі). Яны моцныя, аброслыя чорным шчэцем, маюць доўгія вострыя зубы. Сам Торгу распавядае, што браты — выхадцы з грэчаскага роду, але кроў іх роду калісьці змяшалася з турэцкай, таму паходжанне іх Вуркулакаў лічыцца нізкім. Чаму так? Таму што румыны (на той час яшчэ жыхары княства Валахія) у старажытнасці шмат ваявалі з туркамі, абаранялі ад іх набегаў свае землі, а хрысціянскую рэлігію ў краіне — ад засілля ісламу.

Дарэчы, у рамане Джон Маркс робіць неблагі экскурс у гісторыю Румыніі, тут жа можна прачытаць і пра адметнасці сучаснага жыцця. Краіна перанесла шмат складаных гістарычных падзей і сёння нібыта фарміруе свой новы твар. Аўтар нават параўноўвае вуліцы Бухарэста з моднай крамай, якая толькі адчынілася: рамонт яшчэ не зусім скончаны, вакол ідзе будоўля, але прадаўцы ўжо імкнуцца актыўна прапаноўваць тавары, паказваючы ўсяму свету новы твар і сучасныя еўрапейскія рысы гэтай краіны.

Такім чынам, Ліна апынаецца ў зняволенні ў гатэлі Торгу ў гарах Трансільваніі. Штодзень яна спрабуе збегчы, але наступным ранкам зноў прачынаецца ў сваім пентхаусе. Торгу адкрывае ўсё больш і больш жорсткіх рысаў сваёй натуры. У той жа час у Нью-Ёрку ад невядомай хваробы памірае калега і сябар Ліны, а іншы супрацоўнік кампаніі вар'яцее. Але жахі толькі пачынаюцца. Абяцаю: сумна не будзе. Страшна — дакладна.

**Марына ВЕСЯЛУХА**






# Царское дело

**В 2013 году Московским издательством «АСТ» при поддержке белорусского ООО «Харвест» была выпущена очередная книга из серии «Все тайны истории». Это историческая работа Юрия Жука «Цареубийца. Маузер Ермакова» — исследование, посвящённое убийству Николая II и его семьи.**

Юрий Жук — военный историк, исследователь, оружиевед, доктор юридических наук, президент «Фонда памяти новомучеников императорского дома Романовых». Более 20 лет он занимается изучением обстоятельств трагической гибели царской семьи и других членов императорского дома Романовых на Урале и в Петрограде. Благодаря кропотливой работе исследователя, многие из «белых пятен» так называемого царского дела были подробно изучены и нашли своё историческое подтверждение.

Книга «Цареубийца» расскажет о жизни революционера Петра Ермакова, а также познакомит читателя с историей его личного оружия — пистолета Маузер К-97/12 № 161474, много лет считавшегося «орудием казни Николая Романова». Одно из главных мест в издании занимают воспоминания П. Ермакова о «тобольской эпопее Романовых», а также об убийстве «бывшего царя и его семьи», снабжённые подробными и документально подкреплёнными авторскими комментариями. С именем Ермакова до настоящего времени связаны всевозможные слухи. Автор книги раскроет многие тайны жизни одного из убийц царской семьи.

Следует отметить правильное расположение материала в книге и его разделение на тематические части. Сравнительно небольшие по объёму главы вмещают обширный объём информации. Здесь также можно познакомиться с документами и сведениями из всевозможных архивов, фотографиями.

Главное преимущество книги — в понятном и занимательном изложении не самых простых исторических событий.

**Екатерина СТАСЁНОК**

## Адначаснікі



**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

# Іван

Працаваць карэктарам у полацкую газету «Сцяг камунізму» я прыйшоў нечакана для сябе самога, не кажучы пра знаёмых і блізкіх. Чаму тагачасны рэдактар Іван Фёдаравіч Лемеш паклікаў дзевятнаццацігадовага хлопца з завода шкловалакна, аўтара некалькіх маленькіх публікацый і пачынаючага паэта, застаецца загадкай і па сёння. Ва ўсякім разе я з удзячнасцю памятаю яго ўчынак, які вызначыў мой далейшы лёс.

Шэф даверыў мне і рэдакцыйную літаратурную пошту, каб рыхтаваць традыцыйныя старонкі аб'яднання «Наддзвінне», за што я ўзяўся з вялікім імпэтам і адказнасцю. Безумоўна, раіўся з намеснікам рэдактара Германам Кірылавым, які не прызнаваўся, што таксама спрабуе свае сілы ў літаратуры.

Неяк, прыйшоўшы падпісваць палосы ў карэктарскую, Лемеш сказаў:

— Хутка будзе ў нас працаваць Іван Стадольнік. Чуў пра такога?

Такое прозвішча я ўжо сустракаў у падшыўках. Пад вершамі і гумарэскамі гэты подпіс стаяў з глазнакай «студэнт медвучылішча».

Так у рэдакцыі паявіўся высокі, сімпатычны, з казацкімі вусамі малады чалавек, з якім я ўжо больш за сорак гадоў падтрымліваю цесныя сяброўскія адносіны.

Безумоўна, напачатку Іван, старэйшы за мяне на сем гадоў, прыглядаўся да кучаравага худзенькага хлопца, які пісаў рускамоўныя вершы, хоць і няблага валодаў беларускай мовай.

Стадольнік ужо не раз распавядаў і ў прыватных гаворках, і ў друку, пра тое, як ён спрыяў таму, што я стаў пісаць па-беларуску, але наша далейшае сяброўства вызначылася не толькі гэтым.

Іван, першыя апавяданні якога заўважылі такія мэтры, як Ян Скрыган і Янка Брыль, мог патэлефанаваць ноччу з рэдакцыі, дзе заставаўся пісаць новае апавяданне. Разам мы ездзілі на семінары творчай моладзі, да нашага славутага земляка Алеся Савіцкага ў Мінск. Разам сустракалі ў Полацку Петруся Броўку, Уладзіміра Караткевіча, Міхася Стральцова, Рыгора Барадуліна, Васіля Быкава, Генадзя Бураўкіна, Еўдакію Лось, Міколу Аўрамчыка і, безумоўна, ганаровага палачаніна, воіна і партызана Алеся Ануфрыевіча Савіцкага…

Мы разам калясілі на рэдакцыйнай машыне па палях і фермах падчас рэдакцыйных камандзіровак, бралі чарку на сумесных днях народзінаў і проста ў сяброўскіх застоллях…

Потым я пераехаў у Наваполацк, а Іван, атрымаўшы членскі білет пісьменніцкага саюза, стаў сталічным жыхаром і стала атабарыўся ў гумарыстычным часопісе «Вожык». Забягаючы наперад, скажу, што праз даволі працяглы час нашы шляхі зноў перасякліся менавіта ў «Вожыку», дзе я ўжо працаваў на былым Іванавым месцы адказнага сакратара, а ён вярнуўся ў калектыў з часопіса «Тэатральнае жыццё».

Іван перамог страшную хваробу, не губляючы прыроднага гумару і аптымізму. Мы часта ўзгадваем безліч смешных гісторый, пра некаторыя з іх я пісаў, пра некаторыя мару напісаць. Стадольнік нават назву мне для іх прыдумаў — «Мы з Іванам».

На долю сябра выпала нямала выпрабаванняў: ад галоднага пасляваеннага дзяцінства сына салдата, які загінуў пад Кенігсбергам, да страты блізкіх людзей, хваробы. Але, дзякуй богу, цудоўныя дочкі, таленавіты ўнук Ваня — шчырая ўцеха і светлая радасць для яго.

Не так даўно, у час адной з тэлефонных размоў (а размаўляем з ім мы ледзь не кожны дзень), Іван прамовіў: «Можна я буду называць цябе братам?». Я чалавек стрыманы, але нешта ў горле стала камком, пакуль вымавіў: «Так, Іван, канечне. А як жа інакш?».

Ні ў яго, ні ў мяне не было родных братоў, а так вось разам пабагацелі.



*Кітайская арт-кніга ў выглядзе веера.*

# Кніга як арт-аб'ект

**Першая выстаўка паэта Марселя Брудхаэрса прайшла ў галерэі Сен-Ларана ў Бруселі ў 1964 г. Каб распавесці пра пераход ад мадэрнісцкай літаратуры да эксперыментальнага мастацтва, ён апусціў некалькі асобнікаў свайго зборніка вершаў у гіпсавы раствор. Метамарфоза паэзіі ў «скульптуру» суправаджалася іранічным тэкстам пра тое, што паэту надакучыла быць у сорак гадоў малавядомым і непрыбытковым творцам.**

Менавіта з гэтай неардынарнай творчай акцыі пачынае гісторыю еўрапейская арт-кніга, ці кніга мастака як адзін з самых маладых відаў мадэрнісцкага мастацтва. Яго ўзоры заўсёды звязаныя з ідэяй непаўторнасці кнігі, якая адрозніваецца ад звычайных друкаваных выданняў.

Задача гэтага віду мастацтва — ператварэнне кнігі ў арт-аб'ект, самастойны твор. Глыбокі вобразны змест вырашаецца самымі рознымі выяўленчымі сродкамі. Тэкст, калі ён неабходны, выконвае ў такіх кнігах функцыю асновы для стварэння розных візуальных камбінацый, спалучэнняў нетрадыцыйных форм і матэрыялаў. У мастака, які хоча стварыць арт-кнігу, — неабмежаванае эксперыментальнае поле дзейнасці. Кожны новы твор не падобны на папярэднія. Але заўсёды варта памятаць пра лаканізм і галоўную ідэю: без іх аб'ект не атрымае сваёй вобразнай чытэльнасці. Каб пастаянна пашыраць творчыя арыенціры, наватары еўрапейскага мастацтва звярталіся да ўсходняга вопыту.

У Кітаі, дзе пачаткі пісьменства сягаюць у III тысячагоддзе да н.э., мастацтва кнігі прайшло працяглую эвалюцыю. На чым толькі не пісалі ў свой час кітайцы: на костках, панцырах чарапах, бронзавых катлах, каменных плітах, бамбукавых пласцінках, гліняных таблічках, шаўковых тканінах, нарэшце, на паперы з часу яе вынаходніцтва (II ст. н. э.). Цяпер гэтыя старажытныя прыклады, знойдзеныя падчас археалагічных даследаванняў, лічацца «стартавымі» і надаюць сучаснай арт-кнізе новыя формы і мастацкую шматсэнсоўнасць.

Бадай што самымі зручнымі і хуткімі ў выкананні з'яўляюцца арт-кнігі ў выглядзе шаўковых і папяровых веераў-складанак на драўлянай канструкцыі. Іх змест лёгка адняўляць, інтэрпрэтаваць, змяняць. Важнае правіла — вельмі лаканічны метад перадачы інфармацыі: ніводнага руху пэндзля без сэнсу. Да таго ж змястоўная арт-кніга ўвесь час змяняе абрысы разам са сваімі ўладальнікамі.

Пачаткам развіцця арт-кнігі ў Беларусі можна лічыць гады перабудовы, калі на маладзёжных выстаўках упершыню з'явіліся арт-аб'екты з акрэсленым кніжным выглядам. Дзякуючы такім эксперыментам вызначылася група мастакоў-наватараў: Ігар Кашкурэвіч, Ігар Саўчанка, Надзея Русава, Юрый Малаш ды інш. У сучасным мастацтве арт-кнігі таксама ёсць свае прызнаныя майстры.



*Вольга Сазыкіна. Вельмі старая гісторыя. 2001 г.*

Мінская мастачка Вольга Сазыкіна ў 1997 г. стварыла славуты «Абрус з пялёсткаў». Арыгінальная ідэя «настольнай кнігі» заключалася ў тым, што папяровыя старонкі-пялёсткі не групаваліся ў звычайны кніжны блок, але мацаваліся ад цэнтра па коле. Такую разгорнутую кнігу-абрус можна было разглядаць, седзячы за сталом ці ходзячы вакол яго. Гэтая інавацыя многіх пераканала ў тым, што за арт-кнігай вялікая творчая будучыня.

У пачатку 2000-х В. Сазыкіна прапанавала гледачам чарговы арт-аб'ект «Вельмі даўняя гісторыя». Яго ідэйны стрыжань у тым, што парасткі новых жыватворных ідэй развіваюцца з векапомных вытокаў, і таму не існуе нічога, што не абапіралася б на грунт кніжнай мудрасці. Мастачка выкарыстоўвае такі арганічны матэрыял, як зялёная дэкаратыўная трава, што падчас працы выстаўкі пачынае хутка расці на паверхні скураных кніжных старонак.

Сёлета ў галіне арт-кніжных пошукаў з'явілася работа «Вельмі моцны клопат». Яе аўтар — мінская мастачка-габеленшчыца Вольга Рэднікіна. Кніжны блок не заціснуты ў гіпсавую «вокладку», а шчыльна пераплецены ваўнянымі стужкамі. Кнігу немагчыма разгарнуць і пазнаёміцца з яе зместам. Мастачка тлумачыць, што гэты твор перадае ідэю празмернага клопату старэйшых пра маладых, што часам пазбаўляе іх самастойнасці, не дае раскрыцца магчымасцям.

Далейшае развіццё беларускай арт-кнігі бачыцца ў вобразна-асацыятыўным адлюстраванні актуальных праблем сучаснасці, у пастаноўцы новых пытанняў, якія тычацца пашырэння творчых далягядаў. Не выключана, што традыцыі кітайскага мастацтва кнігі розных стагоддзяў таксама будуць выкарыстоўвацца ў пошуках і знаходках В. Сазыкінай, В. Рэднікінай і іншых беларускіх творцаў.



*Вольга Рэднікіна. Бязмерны клопат. 1976 г.*

**Чжоў ЦІН,**
**аспірантка Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў**

# Сведчанні палявых паштовак

**Да 100-годдзя з пачатку Першай сусветнай вайны ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва Беларусі адкрыўся выставачны праект «Архіў сведкі вайны». У традыцыйным сэнсе гэта не зусім выстаўка: на сценах няма звыклых экспанатаў — толькі паліцы з кнігамі ды фотаальбомы пад шклом. Сапраўды, што мы ведаем пра людзей з фотакартак і «паштовак з палёў»? Што стала з іх рэальнасцю? Арганізатары запрашаюць да дыялогу.**



Перадгісторыя такая. У лютым 2014 года ў Нацыянальным гістарычным музеі фатографам, кіраўніком цэнтра «Цэнтра фатаграфіі» Аляксеем Шынкарэнкам быў прэзентаваны праект «Беларусь у Першай сусветнай вайне». Даследаваны архівы музеяў і прыватных калекцыянераў, разгледжана больш за тысячу фатаграфій і дакументаў, у візуальнай часткі выстаўкі — 86 выяў: паштовак, пашпартоў, дакументаў, а таксама аматарскіх фатаграфій як нямецкіх, так і расійскіх вайскоўцаў. «Забытая вайна» атрымала абрысы, узбагацілася сведчаннямі відавочцаў, здымкамі з месцаў падзей — адбылася «інвентарызацыя» гістарычнага кантэксту.

Работа над выстаўкай вылучыла шэраг пытанняў, адказы на якія Аляксей Шынкарэнка працягвае шукаць у праекце «Архіў сведкі вайны». У нас няма багацця экспанатаў: лепш збіраць гісторыю ў працэсе. Экспазіцыя нагадвае бібліятэку ці працоўную майстэрню, а не выставачную залу (што вельмі важна!). Прадстаўленыя дакументы патрабуюць больш скрупулёзнага, трапяткога стаўлення і асаблівых умоў экспанавання. Таму мы пастараліся максімальна прадумаць прастору, у якой можна весці дыялог пра мінулае.

Частку ўнікальных матэрыялаў, што сціпла стаяць на паліцах выставачнай залы Музея сучаснага выяўленчага мастацтва, прадаставіў Лідскі гісторыка-мастацкі музей:

— У зборы музея захоўваецца амаль адна з самых багатых на Беларусі калекцый дакументаў грамадзян Першай сусветнай вайны — рускія пашпарты і нямецкія асабістыя пасведчанні, што былі знойдзены ў нашым рэгіёне, — распавяла галоўны захавальнік фондаў Лідскага гісторыка-мастацкага музея Наталля Хацяновіч. — Кожны, хто дасягнуў дзесяцігадовага ўзросту, павінен быў мець дакумент. Пашпарты сялян, выдадзеныя ў 1916 — 1917 гг., змяшчаюць фотаздымкі, на якіх можна заўважыць цікавы факт: людзі здымаліся ў святочнай вопратцы, але без абутку.

Экспанаты выставачнага праекта «Архіў сведкі вайны» — гэта альбом з успамінамі ўдзельніка даваеннага і ваеннага часу, фотахроніка штодзённасці невядомага ваеннага доктара, фотаздымкі не саміх баталій, а ў большасці побыту. У праекце выкарыстаны фатаграфіі з калекцый Нацыянальнага гістарычнага музея, Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея, Лідскага гісторыка-мастацкага музея, Кобрынскага ваенна-гістарычнага музея імя А. В. Суворава, Слонімскага раённага краязнаўчага музея імя І. І. Стаброўскага, Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту. Акрамя таго, гістарычныя фотаальбомы прапануюць і калекцыянеры, напрыклад Уладзімір Багданаў:

— Мне вельмі прыемна ўдзельнічаць у праекце: я бачу фатаграфію як дакумент, як яна раскрываецца сучаснымі метадамі даследавання, наколькі шмат інфармацыі нясе. У выставачнай зале змешчана тое, што мае дачыненне да Беларусі, напрыклад, альбом з фота Пастаўскага раёна, палкавыя гісторыі. Альбомы нямецкіх салдат і афіцэраў. Некаторыя з іх падпісаныя і нават змяшчаюць узнагароды. Мая перавага ў такіх даследаваннях — веданне кожнага аб'екта візуальна: па стагадовай фатаграфіі.



Знешняе аблічча праекта «Архіў сведкі вайны» арганізатары плануюць пастаянна папаўняць новымі фотадакументамі, пашыраючы межы тэмы. Каб было лягчэй і цікавей арыентавацца ў матэрыялах, фатаграфіі сабраны ў тэматычныя раздзелы: «Тэатр вайны», «Перад тварам смерці», «Знак воінскай доблесці», «Акупацыя ідэнтычнасці», «Фон вайны». Унутры праекта ёсць мікратэмы, у межах якіх плануецца праводзіць своеасаблівыя дыскусіі па Першай сусветнай вайне.

Паводле Аляксея Шынкарэнкі, фотаальбомы і погляды фатографаў розных краін істотна адрозніваюцца: нямецкая педантычнасць дазволіла захаваць палкавыя кнігі, дзе ў падрабязнасцях апісаны падзеі Усходняга фронту. Гэтыя крыніцы нашмат больш даступны і ўпарадкаваны, чым расійскія. Фотаздымкі апошніх ужо тады былі больш рашучыя, нават эпатажныя.

Выставачны праект плануецца завяршыць альбомам-кнігай з фотаздымкамі, апавяданнямі сведак тых падзей, каментарамі гісторыкаў і поглядамі сучасных людзей.

**Таццяна ШЧЭРБА**

# Праніклівае вока

**Персанальная выстаўка «Нашы любімыя» вядомага беларускага фотамастака Міхаіла Маругі працуе ў Мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага.**



*Цімафей Кузняцоў. Да верша «Хлопчык і лётчык» Янкі Купалы. 2012 г.*

Экспазіцыю складаюць каля 80 фотаработ, створаных за апошнія 20 гадоў. Гэта партрэты людзей, чые імёны выклікаюць захапленне, усмешку, радасць, гонар. Тых, хто дамогся поспеху, каго мы ведаем і бачым з экранаў тэлевізараў. Міхаіл Маруга — майстар партрэтнага жанру, перад яго аб'ектывам нават самыя спрактыкаваныя персоны не маглі схаваць пачуццяў. Праніклівае «вока» фотаапарата змагло ўлавіць тонкія душэўныя перажыванні і асаблівасці характару.

На выстаўцы наведвальнікі змогуць вачыма фотамастака паглядзець на знаёмыя твары. Сярод партрэтуемых выбітныя беларускія акцёры Генадзь Гарбук, Юлія Шпілеўская, Арнольд Памазан; яркія медыйныя персоны Святлана Бароўская, Ларыса Гулякевіч, Дзмітрый Шунін; зоркі эстрады Ларыса Грыбалёва, Аляксей Хлястоў, Паліна Смолава, легендарныя «Песняры»; чароўныя фотамадэлі Кацярына Ганага, Ірына Рамбальская, Вольга Антропава, Вольга Хіжанкова. Унікальныя здымкі зорак сусветнага значэння Роберта Планта (Led Zeppelin), Дана Макаферці (Nazareth), Boney M.

Самыя любімыя мадэлі Міхаіла Маругі — жанчыны, якім і прысвечана вялікая колькасць работ. Здымкі фотамастака натхняюць і здзіўляюць шматаблічнасцю: трапяткія, далікатныя, загадкавыя, прыцягальныя. Кожны вобраз індывідуальны, у кожным хаваецца таямніца...

Акрамя прафесійных фотасесій, рэпартажных здымкаў, Міхаіл Маруга шмат працуе і над буйнымі праектамі. Сярод іх сумесны праект ААТ Банк «Бел ВЭБ», Нацыянальнага гістарычнага музея, Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук «Жывая гісторыя. Музычныя інструменты старадаўняй Беларусі», дзе Міхаіл выступаў як фотамастак, стваральнік серыі здымкаў для календара ў 2008 годзе. У 2012-м Міхаіл Маруга рабіў падобную серыю для праекта ААТ Банк «Бел ВЭБ», Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы «Жывая гісторыя. Беларускія класікі: дыялог з часам».

Міхаіл Маруга — вядучы рэкламны фатограф-прафесіянал з досведам працы больш як 30 гадоў. Член



*Святлана Анікей. Да верша «Мая дзяўчынка» Янкі Купалы. 2012 г.*

Міжнароднай асацыяцыі дызайнераў, Kodak Professional Network, Гільдыі рэкламных фатографаў Расіі, Беларускага саюза дызайнераў, Творчага саюза «Фотамастацтва». Двухразовы пераможца конкурсу «Лепшая рэкламная фатаграфія года» Маскоўскага міжнароднага фестывалю рэкламнай фатаграфіі, «Суперфотамастак года» на Міжнародным беларуска-расійскім фестывалі моды і фота «Млын моды», пераможца Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі — 2008» у намінацыі «Лепшы каляндар».

**Ганна ШЫМУК**

## Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

*Слова краязнаўцы*



**Валянціна Адамовіч, дырэктар Івянецкага музея традыцыйнай культуры (Валожынскі раён), распавядае пра род Плявакаў — былых тутэйшых уладальнікаў:**

— З 1795 года івянецкія землі доўгі час належалі шляхецкаму роду Плявакаў. Найбольш вядомы Якуб Плявака, які з 1810 года валодаў мястэчкам, быў суддзёй павятовага суда ў Мінску і нават выбіраўся яго старшынёй. У музеі ёсць фотакопія партрэта Я. Плявакі, напісанага невядомым мастаком у сярэдзіне XIX стагоддзя.

Вядомы цікавы факт з гісторыі мястэчка: пасля падаўлення нацыянальна-вызваленчага паўстання 1830 года кляштар францысканцаў, узведзены ў XVIII стагоддзі ў стылі барока, у 1832 годзе зачынілі, каб адкрыць пансіён для састарэлых каталіцкіх святароў. Манастырскі комплекс паступова прыходзіў у заняпад і ў канцы 1856-га па хадайніцтве мясцовага духавенства і тагачаснай уладальніцы мястэчка Лізаветы Плявака яго дазволілі адрамантаваць за сродкі парафіян. Храм быў адрэстаўраваны і асвечаны ў гонар архангела Міхаіла.

Род Плявакаў заснаваў у Івянцы прыгожы неагатычны храм — касцёл Святога Аляксея. Гэтая падзея звязана з Эдвардам Кавэрскім і Альжбетай Плявака. Маці Эдварда ў 1850 годзе набыла ў Івянцы дом, а яе сын закахаўся ў Альжбету Плявака, бацькі якой валодалі землямі ў ваколіцах мястэчка. Эдвард Кавэрскі закончыў дзве акадэміі, удзельнічаў у навуковай экспедыцыі па Сібіры, стаў членам навуковага савета Генеральнага штаба Расійскай імперыі, быў адным з заснавальнікаў рускай геадэзіі і картаграфіі. «Карта Россійской имперіи і сопредѣльныхъ съ нею Государствъ составилъ къ Десятилѣтію Комитета Сибирской Желѣзной Дороги Генералъ — Лейтенантъ Э. А. Коверскій 1892 — 1902», — адна з работ Эдварда, ксеракопію якой летась перадаў нам адзін з патомкаў Плявакаў.

Дарэчы, Эдвард пакінуў пасля сябе памяць і ў Івянцы. У пачатку XX стагоддзя мясцовыя католікі не мелі свайго храма, бо былы францысканскі касцёл Святога Міхаіла перабудавалі ў праваслаўную царкву Аляксандра Неўскага. Эдвард Кавэрскі ў 1904-м дабіваецца ў цара Мікалая II дазволу на пабудову. Праз год пачалося будаўніцтва храма па праекце Міхаіла Гатоўскага на сродкі Эдварда і Альжбеты Кавэрскіх. У 1907 годзе дзверы неагатычнага касцёла Святога Аляксея адчыніліся для вернікаў. З цягам часу спачылі ў сямейным склепе яго заснавальнікі ды іх родныя. А праз некаторы час быў устаноўлены знак у алтарнай частцы на ўспамін пра фундатараў храма.

Не менш вартая згадкі асоба Яна Плявакі. З архіўных дакументаў вядома: пасля заканчэння каталіцкай духоўнай семінарыі з 1843 года быў пробашчам парафіі Ханушкі ў Ковенскай губерніі. У кнізе біскупа Паўла Кубіцкага «Вязнічыя святары за справы касцёла і Айчыны ў 1861 — 1915 гг.» змешчаны архіўныя матэрыялы пра ўдзел ксяндза Яна ў нацыянальна-вызваленчым паўстанні 1863 года і вынясенні яму судовага прыгавору.

Сёння захаваннем памяці роду займаецца Станіслаў Плявака, які жыве ў Польшчы. Разам з братам Мар'янам ён стварыў у 2002 годзе ў Варшаве Таварыства роду Плявакаў. Галоўнае свята Таварыства — 7 снежня. Менавіта ў гэты дзень у 1808 годзе адбылося пасяджэнне Віленскай шляхетнай дэпутацкай сесіі, на якой было зацверджана генеалагічнае дрэва Плявакаў. Гербам таварыства з'яўляецца польская Пагоня, на якой адлюстравана рука з мячом (сімвал мужнасці) і графская карона. Суполка аб'ядноўвае ўсіх неабыякавых да гісторыі людзей, мае свой сайт, дзе шмат цікавай інфармацыі, звязанай з Івянцом.

Летам 2011 года прадстаўнікі таварыства (з Польшчы, Расіі і Беларусі) на чале са старшынёй Станіславам Плявакам наведалі Івянец і ўзялі ўдзел у навуковай канферэнцыі, прысвечанай гісторыі мястэчка ў XVI — першай палове XX стагоддзя і роду Плявакаў.

# Люлька, пляшка, чамадан...



*Рускія салдаты вучаць нямецкага ваеннапалоннага народным танцам.*

**Каб па-сапраўднаму ацаніць багацце экспанатаў Івацэвіцкага раённага гісторыка-краязнаўчага музея, аднаго разу недастаткова.**

Сваё цяперашняе найменне ўстанова атрымала ў 2010 годзе, а была адкрыта ў 1993-м на базе грамадскага музея імя Колі Гойшыка. Паводле дырэктара музея Раісы Горбач, сёлета асноўны фонд папоўніўся на 100 адзінак і складаецца з больш як 4 тысяч музейных прадметаў. Таму нядзіўна, што за квартал тут праходзіць па чатыры выстаўкі.

Чарговая прысвечана 100-годдзю з пачатку Першай сусветнай вайны. Па сутнасці, ваенная тэматыка — асноўная ў экспазіцыі: менавіта ў Івацэвіцкім раёне знаходзіцца Агінскі канал, па якім праходзіла лінія фронту. Шэсць гадоў супрацоўнікі музея вядуць тут пошук рарытэтаў.

— Першыя экспанаты — люлька, пляшка — трапілі да нас пры ачыстцы Агінскага канала, — адзначыла галоўны захавальнік фондаў Галіна Дылюк. — Пазней людзі пачалі прыносіць манеты. У дотах знойдзены металічныя крыжы, крыж апалчэнця, дэталі гадзінніка, гузікі…

Як вядома, Агінскі канал быў пабудаваны на сродкі Міхаіла Казіміра Агінскага ў 1765 годзе і з'яўляўся часткай воднага шляху з Дняпра ў Нёман, які злучае рэкі Ясельду і Шчару. Калісьці па канале сплаўлялі лес з Палескіх пушчаў, а ў гады Першай сусветнай ён стаў зонай ваенных дзеянняў. Пра гісторыю абароны на канале сведчаць фотаздымкі, на якіх адлюстраваны пачатак будаўніцтва загараджальнай лініі



*Фота Наталлі Святловай*

*Шафка, якая належала яўрэйскім купцам, і чамадан сям'і Жыгар з вёскі Размеркі.*

на Агінскім канале ў 1915 годзе, выгляд ляснога лагера рускіх кавалерыстаў, частка сістэмы нямецкіх загараджэнняў, варожыя пехацінцы ды інш. Увагу прыцягвае нямецкі аэрафотаздымак, зроблены 1 чэрвеня 1917 года: лінія фронту з вышыні 3200 метраў з подпісам лётчыка і назіральніка-апаратара.

Шырока прадстаўлены паштоўкі. Адзін з самых адметных экспанатаў — дабрачынная паштоўка з подпісам: «В пользу состоящим под Августейшим Ея Величества Государыни Императрицы Александры Фёдоровны Правительством Петергофского общества в помощь больным и на воспитание в приютах Отечества детей убитых и раненых воинов». Такім чынам збіралі грошы для параненых.

Асобная частка экспанатаў адлюстроўвае побыт беларусаў у пачатку XX стагоддзя. Некалькі гадоў таму ў музеі з'явілася мэбля, якая належала яўрэйскім купцам. Супрацоўнікі музея набылі рарытэты ў прыватнай асобы.

Яшчэ адзін рарытэт — з перыяду Першай сусветнай, калі дзясяткі тысяч людзей сталі бежанцамі.

— Гэта чамадан майго дзеда, які вяртаўся з Расіі, — паведаміла Галіна Дылюк. — Дзядуля з бабуляй пабраліся шлюбам у Пецярбургу, а вярнуліся ў родную вёску толькі ў 1918 годзе. А былі, на жаль, і тыя, хто вымушаны быў сяліцца ў нямецкіх дотах і рускіх зямлянках, якія знаходзіліся па берагах Агінскага канала.

Пад канец Першай сусветнай, калі абодва бакі стаміліся ваяваць, адбываліся братанні рускіх і нямецкіх салдат. Сведчаннем — прадстаўленыя на стэндах фотаздымкі пачатку 1917 года.

Маўклівы сведка падзей, Агінскі канал застанецца напамінам пра гістарычнае мінулае.

**Наталля СВЯТЛОВА**

# Жыві арганічна!

**Заўтра на сядзібе «Верас» у Зэльвенскім раёне адбудзецца аграэкатурыстычны фестываль Organic party, прысвечаны развіццю вясковага турызму з улікам прыродаахоўных аспектаў і сацыяльнай адказнасці бізнесу.**

Гэта адно са шматлікіх мерапрыемстваў інфакампаніі «Простыя рэчы», якая рэалізуецца пад эгідай ПРААН Беларускім грамадскім аб'яднаннем «Адпачынак у вёсцы» і Міністэрствам спорту і турызму Беларусі ў межах праекта USAID «Мясцовае прадпрымальніцтва і эканамічнае развіццё». Арганізатары фэсту імкнуцца прыцягнуць увагу прадпрымальных людзей да аграэкатурызму як змястоўнага, шматграннага і цікавага бізнесу, павысіць кампетэнцыю гаспадароў аграсядзіб ды іншых вытворцаў турыстычных паслуг у галіне «зялёных» тэхналогій.

— Месца для правядзення свята абрана невыпадкова, — распавяла старшыня праўлення БГА «Адпачынак у вёсцы» Валерыя Кліцунова. — Падчас рэалізацыі праекта было створана 17 новых турыстычных дэстынацый, адна з іх — «Зэльвенскі Дыяруш», якая валодае велізарным турыстычным патэнцыялам, заснаваным на культурнай і прыроднай спадчыне. Акрамя таго, «Верас» — адна з самых вядомых аграсядзіб. Ірына і Міхаіл Макей, яе гаспадары, былі першапраходцамі аграэкатурызму ў Беларусі.

Падчас свята будзе працаваць некалькі тэматычных блокаў. Наведвальнікам пляцоўкі «Ясі арганічна» распавядуць пра смачную і экалагічна чыстую ежу, выкарыстанне традыцыйных рэцэптаў. Пляцоўка «Працуй арганічна» прыцягне тых, хто цікавіцца будаўніцтвам дамоў з улікам «зялёных» тэхналогій і выкарыстаннем экалагічных матэрыялаў. Турыстаў зацікавіць і пляцоўка «Адпачывай арганічна», дзе размова пойдзе пра новыя паслугі ў гэтай сферы.

Гасцей чакаюць майстэрні і трэнінгі, майстар-класы ад кухараў, рамеснікаў, фалькларыстаў. Прадугледжана адмысловая праграма для дзяцей.

**Раіса МАРЧУК**

*Спадчына*

# Век будынка

Сто гадоў спаўняецца сёлета будынку Магілёўскага абласнога музея імя П. В. Масленікава. Узводзіць гэты помнік архітэктуры пачалі ў 1903 годзе, а завяршылі толькі ў 1914-м. У пабудове ўдала сумясціліся рысы мадэрну, псеўдарускага стылю і позняга класіцызму.

Першапачаткова тут знаходзіўся сялянска-зямельны банк. У лістападзе 1917 года, пасля захопу царскай стаўкі, якая размяшчалася ў Магілёве, тут пачала выдавацца бальшавіцкая газета «Революционная ставка». У маі 1919-га будынак перадалі аддзелу народнай адукацыі для стварэння музея пралетарскай культуры. Да 1932 года ў ім размяшчаўся Магілёўскі дзяржаўны гістарычны музей.

Галоўнай славутасцю будынка быў браніраваны пакойсейф, дзе захоўваліся каштоўнасці і рэліквіі, большасць з якіх была страчана падчас Вялікай Айчыннай вайны. Сярод іх — крыж Еўфрасінні Полацкай, калекцыя беларускіх рукапісных кніг і грамат, зброя X — XIV стагоддзяў, манеты і абразы XVII — XIX стст., плашчаніца, датаваная 1566 годам, ды іншыя рарытэты.

З 1932 года ў будынку абсталяваўся Магілёўскі абкам ВКП(б), пасля вайны — абкам і гарком КПСС, потым — рэдакцыя газеты «Могилёвская правда». Напрыканцы 1990-га тут зноў адкрылі музей — Магілёўскі абласны мастацкі. Праз шэсць гадоў Указам Прэзідэнта ўстанове было прысвоена імя Паўла Васільевіча Масленікава.

Сёння музей можа пахваліцца зборам помнікаў рэалістычнага мастацтва XVII — XIX стст., калекцыяй беларускай школы іканапісу, творамі мастакоў Магілёўшчыны — Вітольда Бялыніцкага-Бірулі, Уладзіміра Кудрэвіча, Антона Бархаткова, Віктара Грамыкі, Паўла Масленікава ды іншых. Дарэчы, малюнак будынка музея размешчаны на айчыннай банкноце вартасцю ў 200 тысяч рублёў.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Пояса свет чарадзейны

**Калісьці пояс быў не толькі часткай нацыянальнага касцюма. Ён служыў чалавеку абярэгам, вылучаў асобу ў соцыуме. Яго нашэнне адпавядала этычным нормам. Поясапляценне — адзін з самых важных і цікавых відаў сучаснага народнага мастацтва.**

Паступова адраджаючыся, гэтае старадаўняе рамяство становіцца адным з найбольш папулярных у Мінскай вобласці мастацтвам.

Сёлета свята пояса ў другі раз прымала Уздзеншчына. Больш як 20 гадоў тут працуе Школа народнага майстэрства. Уздзенскія ўмельцы — пастаянныя ўдзельнікі рэгіянальных, абласных і рэспубліканскіх фестываляў ды конкурсаў.



*Конкурсныя работы.*

Удзел у II абласным свяце-конкурсе майстроў ткацтва і пляцення паясоў «Беларускі пояс» узялі жыхары 18 раёнаў Міншчыны, прычым не толькі майстры-прафесіяналы, але і вучні. Былі прадстаўлены розныя тэхнікі: ткацтва на бердзечку, на дошчачках, «на ніту», пераборнае ткацтва, кругавое пляценне.

Але на свяце дэманстраваліся не толькі паясы. Працавала пляцоўка «Майстры Уздзеншчыны» — цэлы комплекс выставак-кірмашоў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Ладзіліся майстар-класы, бяспройгрышныя латарэі, гульнявыя і канцэртныя праграмы. Словам, было што паглядзець і набыць!

Конкурсныя работы ацэньвала кампетэнтнае журы на чале са старшынёй Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Яўгенам Сахутам, які адзначыў: асноўная задача кожнага ўдзельніка — не толькі паказаць сваё майстэрства, але і паглядзець, што ўмеюць іншыя, — выканана выдатна. Уладальніцай Гран-пры стала Галіна Бураўцова са Старадарожскага раёна. Сярод лаўрэатаў свята-конкурсу — народныя майстры Беларусі Святлана



*Фота Паўла Цыбіна*

*Галіна Бураўцова.*

Адзінец ды Ірына Яскевіч з Любанскага раёна. У намінацыі «Лепшы сямейны калектыў» (некаторыя аб'ядноўваюць і па тры пакаленні майстроў) перамаглі сем'і Гаргун (Старадарожскі), Выскварка (Любанскі), Лукашык (Валожынскі), Курэйчык (Уздзенскі), Рэва (Бярэзінскі). У намінацыі «Дэбют» дыпломы атрымалі Марыя Жабко, Паліна Мянцюк і Настасся Назарава з Валожынскага раёна, Кацярына Курдзюкова са Слуцкага і Арына Выскварка з Любанскага раёнаў. Адзначаны таксама лепшыя творчыя калектывы ды педагогі.

— На жаль, няма ў жывых пачынальнікаў поясапляцення, — шкадуе Галіна Бураўцова. — Мне ж даўно хацелася засвоіць арыгінальныя тэхнікі ткацтва. Дзякуй вопытным майстрам, якія падзяліліся з намі сваімі сакрэтамі на семінарах.

**Яна ЯВІЧ**

# Моваю песні

Нездарма кажуць, што добрай песні перакладчык не патрэбны. У чарговы раз пераканаліся ў гэтым і выканаўцы-беларусы, і слухачы-расіяне.

Сапраўдны гастрольны тур атрымаўся ў калектыву мастацкай самадзейнасці цэнтралізаванай клубнай сістэмы Касцюковіцкага раёна. З двухгадзіннай канцэртнай праграмай артысты пабывалі ў трох расійскіх населеных пунктах Гардзееўскага раёна Бранскай вобласці, дзе святкаваўся Дзень паселішча.

Для гасцінных жыхароў Унашава, Гліннага, Рудня-Вараб'ёўкі свае лепшыя песні выканалі салісты, удзельнікі народных ансамбляў «Калініца» і «Радня», груп «Цуда-раніца» і «Запаветны напеў». Шмат удзячных слоў пачулі касцюковіцкія артысты.

**Наталля ДРОБЫШАВА,**
**намеснік дырэктара цэнтралізаванай клубнай сістэмы Касцюковіцкага раёна**

# Чалавек сваёй эпохі

Збіраючы рэдкія факты з гісторыі Талачынскага раёна падчас працы ў Нацыянальным архіве Беларусі, я знайшоў дакументальныя звесткі пра журналістаў, якія ў 1930-я гады спрабавалі сябе ў творчасці. Адзін з іх — Аляксандр Бярозкін.

Напрыканцы сакавіка 1939 года маладога творцу выклікалі на пасяджэнне Бюро ЦК КП(б). Амаль два гады Аляксандр працаваў рэдактарам, і толькі цяпер яго павінны былі зацвердзіць на гэтай пасадзе. Нясмела ўвайшоў у вялікі пакой. За сталом сядзелі партыйныя кіраўнікі краіны А. Волкаў, А. Кавалёў, А. Лявіцкі ды іншыя.

— Прапануецца зацвердзіць адказным рэдактарам газеты «Піянер Беларусі» Бярозкіна Аляксандра Васільевіча. Нарадзіўся ў 1910 годзе, член партыі бальшавікоў, беларус, мае вышэйшую адукацыю. Ці ёсць пытанні?

— Вы ведаеце школьную працу, дзяцей?

— Так, я працаваў настаўнікам Саколінскай школы. Закончыў вячэрняе аддзяленне Мінскага педінстытута...

Зацверджаны. А як шмат папярэднічала гэтаму! Сябры адзначалі, што Бярозкін вылучаўся сур'ёзным стаўленнем да жыцця і сваёй справы. Яго паважалі за памяркоўнасць, сціпласць і дабрыню.

Аляксандр Бярозкін нарадзіўся на станцыі Талачын у сям'і рабочага-чыгуначніка. З дзяцінства шмат працаваў. Зімой вучыўся ў Талачынскай сямігодцы, потым стаў настаўнікам. У 1930-м яго запрасілі ў Талачын і прызначылі інспектарам рана па ліквідацыі непісьменнасці. Праз год прызначаны загадчыкам сацбытсектара газеты «Сельгасрабочы Беларусі» ў сталіцы. Паступіў на рабфак Мінскага будаўнічага інстытута.

Сухоты не перашкодзілі хлопцу стаць студэнтам факультэта журналістыкі БДУ. Аляксандр шмат чытаў, наведваў сустрэчы з пісьменнікамі, журналістамі і ў хуткім часе яго запрасілі на пасаду загадчыка аддзела культуры ў рэдакцыю газеты «Чырвоная змена». Цікавіўся выхаваннем і адукацыяй рабочай і сялянскай моладзі, людскімі стасункамі. У адным з артыкулаў ён з юнацкім запалам піша: «У нашай краіне растуць смелыя, мужныя людзі, якія паважаюць сябе і другіх, людзі гарачых пачуццяў і цэльных характараў. Ім не ўласцівы адрыў быту ад грамадскай дзейнасці. І не ўласцівы паркі чалавека, выхаваная на правілах буржуазнай маралі».

Калі Аляксандр Бярозкін стаў рэдактарам газеты «Піянер Беларусі», яго падтрымлівалі Янка Купала, Янка Маўр, Змітрок Бядуля, Анатоль Вялюгін, Макар Паслядовіч, Алесь Якімовіч, чые творы друкаваліся на старонках газеты, а дарадцамі былі вучоныя і настаўнікі. Ганарыўся рэдактар і юнымі карэспандэнтамі.

З першых дзён Вялікай Айчыннай Аляксандр Бярозкін — на палітрабоце ў Чырвонай Арміі. Са студзеня 1942 года — у Маскве, дзе яго прызначылі літаратурным супрацоўнікам радыёстанцыі «Савецкая Беларусь», якую ўзначаліў пісьменнік Сцяпан Майхровіч.

Амаль 20 год Аляксандр Бярозкін працаваў у камсамольскім і партыйным друку Мінска і Масквы. З 1952 года быў рэдактарам аддзела гісторыі, членам рэдкалегіі часопіса «Коммунист».

Памёр Аляксандр Васільевіч 6 верасня 1968 года. Пахаваны ў Маскве.

**Эдуард КАРНІЛОВІЧ**

# Янка Журба і Карэлічы

**У 1914 годзе ў мястэчка Карэлічы прыехаў 33-гадовы настаўнік Іван Івашын — паэт-пачатковец Янка Журба. Ён скончыў Полацкую настаўніцкую семінарыю і Глухаўскі настаўніцкі інстытут на Украіне.**

Іван Івашын паходзіў з беднай шматдзетнай сялянскай сям'і, што жыла на Віцебшчыне. Вершы пачаў пісаць па-руску яшчэ падчас вучобы ў семінарыі, — а вось літаратурным дэбютам пачынаючага творцы стаў беларускамоўны верш «На беразе Дзвіны», надрукаваны ў 1909 г. пад псеўданімам Янка Журба ў газеце «Наша ніва». Так у беларускай паэзіі з'явіўся яшчэ адзін аўтар, які рупіўся пра абуджэнне нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа. Прычым адбылося гэта тады, калі жыў і працаваў ён яшчэ на Украіне.

У 1911-м І. Івашын вярнуўся ў Беларусь, дзе настаўнічаў у Чашніках Віцебскай губерні. У Нацыянальным гістарычным архіве Рэспублікі Беларусь захаваўся дакумент ад 24 лістапада 1914 года, адрасаваны дырэктару народных вучылішчаў Мінскай губерні, з якога можна даведацца, што «бывший учитель Чашникского высшего начального училища Иван Ивашин <…> в Чашникском высшем начальном училище состоял с 1-го июля 1909 года по 1-е января 1914 года. Обладая достаточным педагогическим опытом, он вполне успешно вёл учебно-воспитательное дело в названном училище и за время службы ни в чём предосудительном замечен не был. Уволился Ивашин от должности по прошению по домашним обстоятельствам».

Пасля звальнення Іван Івашын накіраваўся ў Харкаў, дзе паступіў на вышэйшыя камерцыйныя курсы, але з-за матэрыяльных цяжкасцей хутка быў вымушаны пакінуць вучобу.

Паэт прыехаў у Карэлічы напрыканцы 1914 г., працаваў у Карэліцкім вышэйшым пачатковым вучылішчы. Праўда, як сведчаць дакументы, спачатку ён часова выконваў абавязкі настаўніка, з-за чаго ўзніклі праблемы з аплатай працы. Архіўныя дакументы сведчаць, што Іван Івашын двойчы (12 снежня 1914 г. і 14 лютага 1915 г.) падаваў прашэнне інспектару Карэліцкага вышэйшага пачатковага вучылішча хадайніцтвам аб зацвярджэнні яго на пасаду настаўніка. Увесь гэты час яму даводзілася клапаціцца пра братоў, сясцёр і састарэлых бацькоў: у сям'і было 12 чалавек. Урэшце інспектар Сцяпан Рамановіч 21 снежня 1914 г. звярнуўся да дырэктара народных вучылішчаў Мінскай губерні з хадайніцтвам аб прызначэнні Івашына настаўнікам спеваў.

Тым часам паэт працягваў друкаваць свае вершы ў газеце «Наша ніва», часопісе «Лучынка» і «Беларускім календары». Псеўданім Янка Журба абраў невыпадкова: у многіх творах гучаць сацыяльныя матывы. Верай у лепшую долю беларуса прасякнуты вершы «На ўсходзе сонца», "Да светлых зор», «У купальскую ноч», "Зоры мае светлыя», «Каханне», «Мігцелі зоры ў цёмнай ночы…». Апошні ўпершыню быў змешчаны ў зборніку «Заранкі» пад назвай «Раманс».

У «карэліцкі» перыяд жыцця і творчасці з-пад пяра выйшлі вершы «Мая песня», "Вясна ідзе», «Вольны шлях», пазней надрукаваныя ў «Нашай ніве». Аднак ішла Першая сусветная вайна, і Янка Журба, пакінуўшы Карэлічы, з'ехаў у Сімбірскую губерню, дзе настаўнічаў, а вярнуўся ў Беларусь у 1921-м. Працаваў у навукова-педагагічнай камісіі Наркамасветы БССР, інспектарам Бабруйскага акруговага аддзела народнай асветы, выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры ў школе і Магілёўскім медвучылішчы.

У 1933-м ён заняў пасаду навуковага супрацоўніка Інстытута мовы АН БССР, але праз некаторы час звольніўся па стане здароўя і ў наступныя гады выкладаў музыку і спевы ў вясковых школах, не пакідаючы, аднак, літаратурнай творчасці. У 1950-я пабачылі свет некалькі паэтычных кніг Янкі Журбы, сярод іх — зборнік дзіцячых вершаў. Пяру творцы належаць і этнаграфічныя нарысы, публіцыстычныя артыкулы, апавяданні.

**Святлана КОШУР**

# Казачны сезон Хітровай і Геранiка



**Маладыя салісты Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі Людміла Хітрова і Канстанцін Геронік — адны з самых яркіх зорак сённяшняй балетнай сцэны. Людміла прыехала ў Мінск з Расіі ўслед за мужам, таксама артыстам балета Аляксандрам Бутрымовічам. А Канстанцін — з сямейнай дынастыі танцоўшчыкаў. У жыцці яны блізкія сябры, а на сцэне пастаянныя партнёры. Сёлета артысты ўзялі ўдзел у IV Міжнародным конкурсе артыстаў балета ў Стамбуле і атрымалі Гран-пры. Іх творчыя дасягненні адзначаны і дзяржавай: у 2014-м Людміла і Канстанцін узнагароджаны медалямі Францыска Скарыны. «ЛіМ» прапануе сваім чытачам сустрэчу з гэтымі выбітнымі асобамі.**

**— Кожнага артыста нехта «стварае». Хто стаў рэжысёрам у вашым творчым жыцці?**

**Людміла Хітрова:** — Я нарадзілася і вырасла ў Ніжнім Ноўгарадзе. Восем гадоў прайшло, як скончыла тэатральнае вучылішча, але штодзённыя слёзы памятаю і сёння. Педагог класа Таццяна Талстухіна ўвесь час імкнулася мяне закрануць: то крычала, то ўвогуле не звяртала ўвагі, што вельмі крыўдзіла. Пасля даведалася, што я — яе любімая вучаніца! У выніку стала адзінай студэнткай на курсе, хто нечага дасягнуў. Астатнія пайшлі з прафесіі ці працуюць у самадзейнасці. Аналізуючы гады вучобы, разумею: менавіта Таццяна Уладзіміраўна загартавала мой характар. Несумненна, хочацца падзякаваць і легендарнай балерыне Вялікага тэатра Беларусі Людміле Бржазоўскай. Яна прафесіяй жыве: можа патэлефанаваць ноччу праз тыдзень пасля спектакля і даць пэўную параду — здаецца, думае пра балет 24 гадзіны ў суткі! І, безумоўна, заўсёды падтрымлівалі бацькі. Вучылішча знаходзілася далёка ад дома — даводзілася ўставаць а пятай гадзіне раніцы. Тата гатаваў сняданак, а калі я вярталася апоўначы, рабіў мне масаж — ратаваў ногі… Маміны любоў, давер і падтрымка таксама побач усё жыццё: яна дазволіла мне ў сямнаццаць гадоў пераехаць з Ніжняга Ноўгарада ў Сібір на працу ў Краснаярскі тэатр оперы і балета.



**Канстанцін Геронік:** — Я вельмі ўдзячны свайму педагогу ў Беларускім харэаграфічным вучылішчы — Людміле Матусевіч, якая нам, маленькім, давала сапраўды дарослую загартоўку. Але галоўнымі крытыкамі заўсёды былі і застаюцца бацькі, якія таксама ў свой час танцавалі. Тата ніколі не хваліць, каб я не расслабляўся. Маці — выкладчык харэаграфічнага каледжа, займаецца з пачаткоўцамі. Некаторы час я дапамагаў ёй. Глядзеў у наіўныя дзіцячыя вочы, якія ў сваю чаргу з вялікім захапленнем назіраюць за табой… Гэта вельмі цікава, але пакуль займацца педагагічнай дзейнасцю не гатовы: вялікая адказнасць, кожнае тваё слова ўплывае на лёс дзяцей. Канечне, гэта і нашы любімыя педагогі Вялікага: Аляксандр Мартынаў і Таццяна Яршова, артысты з выдатнай класічнай адукацыяй, густу, іх парадам цалкам давяраеш.

**— Якія партыі ў вашай кар'еры сталі выпрабавальнымі?**

**Л. Х.:** — Я ніколі не хацела танцаваць Адэту-Адылію ў «Лебядзіным возеры», пра якую марыць амаль кожная балерына. Мне заўсёды падабалася Джульета з балета С. Пракоф'ева. Пачуцці шоку і безвыходнасці накацілі ў мінулым сезоне пасля прызначэння на Адэту-Адылію. Пасля першай рэпетыцыі я плакала, бо не адчувала, што змагу праз тры тыдні яе станцаваць. Перад спектаклем хацелася збегчы — жудасны стан. Канечне, здараецца, што хвалюешся, але так, як перад «Лебядзіным возерам», я не панікавала ніколі. Яшчэ ў Краснаярску ў васямнаццаць гадоў, калі танцавала прэм'еру «Папялушкі», прыйшла ледзь не за 40 хвілін да пачатку, сама зрабіла сабе прычоску і грым. На сцэне ў мяне нешта здарылася с покладамі ў пальцах, вейкі на адным воку адляпіліся, але танцавала і адчувала сябе спакойна! А тут… за дзве гадзіны да пачатку спектакля ўсур'ёз абдумвала, што будзе, калі я збягу. Ніяк не магла зрабіць грым, бо перашкаджалі слёзы. У выніку ўсё прайшло добра. Потым на працяглых французскіх гастролях я танцавала Адэту-Адылію шмат разоў, — і закахалася ў гэтую ролю. Пасля апошняга прадстаўлення ў Францыі нават крычала на ўвесь калідор: «Я люблю балет!»



*Фота Міхаіла Несцерава і з асабістых архіваў герояў*

**К. Г.:** — Мяне вельмі палохалі складанай партыяй Меркуцыа ў «Рамэа і Джульеце». Так здарылася, што я атрымаў гэтую ролю, але па розных прычынах два з паловай гады не мог выйсці на сцэну. Нарэшце танцую і думаю: што ў гэтым Меркуцыа страшнага? Значна складаней было вучыць Базіля ў «Дон Кіхоце»: здавалася, што не вытрымаю фізічна. Аднак сёння гэтыя партыя і спектакль мае любімыя. «Дон Кіхот» — балет-свята, цудоўнае спалучэнне класічнай харэаграфіі і хрэстаматыйнага сюжэту, поўнае добрага гумару.

**— Як захоўваць натхненне ў спектаклі, які танцуеш ужо шмат часу?**

**К. Г.:** — За апошнія чатыры гады я выконваў ролю Блазана ў «Лебядзіным возеры» больш як дзве сотні разоў, для мяне там ужо няма нязведанага, але гэта не значыць, што надакучыла. На самай справе дастаткова проста пачуць музыку П. Чайкоўскага, і ўсё — натхненне ўжо з табой!

**Л. Х.:** — Са спектакля ў спектакль усё роўна імкнешся нешта палепшыць. Заўважыш за сабой нейкі недахоп і на наступны раз яго выпраўляеш. Танцаваць шаблонна нельга, ды і не атрымаецца. Мы ж усе жывыя людзі, таму і настрой кожны вечар у нас розны, а значыць, і вынік нашай працы.

**К. Г.:** — Паўтарацъ і ніколі не паўтарацца — выклік для артыста.

**Л. Х.:** — Паўтараць усё лепшае і імкнуцца яшчэ нешта дадаць!

**— У жыцці вы сябры і шмат танцуеце разам на сцэне Вялікага тэатра. Аднак у Канстанціна ўжо ёсць багаты досвед удзелу ў харэаграфічных конкурсах, а Людміла паехала на конкурс упершыню — і адразу Гран-пры!..**

**Л. Х.:** — Калі б не Косця, я нікуды не паехала б. Было боязна на гэта адважыцца. З аднаго боку, хочацца зразумець сваё месца ў сусветнай «сістэме каардынат», пераняць досвед, а з іншага — страшна вярнуцца з пустымі рукамі і сапсаваць рэпутацыю сярод калег.

**К. Г.:** — А я заўсёды ведаў, што Люда вартая перамогі. Яна бліскучая балерына і цудоўны чалавек. Настройваў яе не хвалявацца, калі ў першым туры не зробім усё дасканала. Аднак мы здолелі выканаць праграму нават лепш, чым на рэпетыцыях.

**Л. Х.:** — Мы падрыхтавалі для Стамбула класічныя па-дэ-дэ з балетаў «Карсар» і «Дон Кіхот», а таксама тры сучасныя нумары. Дапамог малады харэограф Сяргей Мікель, вучань Валянціна Елізар'ева. Пасля выканання да нас падыходзілі калегі і пыталіся імя пастаноўшчыка. Дарэчы, усе нумары зусім розныя па стылі, харэаграфічнай лексіцы і ідэях. Нам вельмі падабаецца, што Сяргей здольны мысліць у розных напрамках. На конкурсе нас вельмі добра прымалі: дзякуючы працы пастаноўшчыка, адчуваўся індывідуальны стыль.

**— Што вы набылі, а што страцілі на шляху да поспеху?**

**К. Г.:** — Губляецца здароўе, а набываецца вопыт і рэпертуар. З'яўляецца гонар за тое, што ты нешта можаш, за свой тэатр. Крыху расчароўваешся ў людзях, бо на пачатку кар'еры ўяўляеш усё інакш.

**Л. Х.:** — А на самай справе гэты тэатральны сезон атрымаўся казачным! Мы перамаглі на конкурсе, атрымалі дзяржаўныя ўзнагароды, станцавалі шмат цікавых спектакляў дома і на гастролях. Наперадзе новыя прэм'еры: у гэтым сезоне чакаюцца балеты «Жар-птушка» — у кастрычніку і «Лаўрэнсія» — у лістападзе.

**Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
адказны сакратар — 284-97-09
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
аддзел прозы і паэзіі — 284-44-04
аддзел мастацтва — 284-82-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2320.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 11.09.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 3721.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686